РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №32 (141), 10 ЖНІЎНЯ 1994 ГОДА.

## СЁННЯ:







# ШЛЯХ ДА ХРАМА

У жніўні атрымлівалі:

- старшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі -- 610000 руб.,
- інжынер на вытворчасці -- 477000 руб.,
- выкладчык ВНУ -- 550000 руб.,
- навуковы супрацоўнік музея -- 446000 руб.,
- бібліятэкар -- 440000 руб.,
- кінарэжысёр вышэйшай катэгорыі -- 584100 руб.

Духоўнасць нацыі сцвярджаецца зусім не тым, што высокія дзяржаўныя чыноўнікі побач са святарамі ці са свечкамі ў руках цырымонна пазіруюць перад фота- і тэлекамерамі. А вось зняважаны, жабрацкі стан айчыннай навукі і культуры — лакмусавая паперка гэтай самай духоўнасці. Ва ўсім цывілізаваным свеце дзяржаўныя і муніцыпальныя структуры спрыяюць развіццю культуры і навукі, бо разумеюць, што ў чыста рынкавых умовах існаваць яны не здолеюць. Не кажучы ўжо пра трывалую і разгалінаваную інфраструктуру прыватнай падтрымкі гэтых сфераў, што таксама, дарэчы, заахвочваецца дзяржавай (з дапамогай, напрыклад, падатковай палітыкі). І тое, што ў іх там, на Захадзе, дзяржавы багатыя, а ў нас зусім наадварот — не аргумент. Бо якраз у беднай краіне нам не выпадае чакаць, што ў хуткім часе разгорнецца фундатарства і кампенсуе бяздзейнасць дзяржавы.

А пакуль што няма грошай на выданне літаратуры, не кажучы ўжо пра даследаванні, якія гэтых грошай патрабуюць. Навуковыя ўстановы скарачаюцца да мінімуму, а тыя, хто застаецца, атрымліваюць не грошы, а грашы. Вось і ідуць вучоныя з сусветнымі імёнамі ў камерцыю ды куды яшчэ — што ўжо тут казаць пра пераемнасць пакаленняў, пра клопат аб маладых перспектыўных навукоўцах, пра сістэму адукацыі. Але без фундаментальнай навукі, якая непасрэдна не робіць уплыву на вытворчасць, не існуе навукі прыкладной. Узгадваецца спіс розных прафесій у ЗША па ступені іх аплочваемасці — дык вось, там навукоўцы, выкладчыкі ВНУ займаюць другое месца (пасля юрыстаў), за імі ідуць лекары. Мы не кажам, што нашы прадстаўнікі аналагічных прафесій павінны атрымліваць тыя ж сумы ў даляравым эквіваленце, але прапорцыі павінны быць прыкладна гэткімі.

Што зробіш, прэстыжнасць занятку наўпрост залежыць ад матэрыяльнага фактару, гэтак ужо спрадвеку ў чалавецтва павялося. Мы ж, калі мець на ўвазе нашых навукоўцаў, інжынераў, пісьменнікаў і іншых, гаворым ужо не пра прэстыжнасць, а пра ўмовы для элементарнага існавання, а больш дакладна, пра ўмовы, якіх няма і якія яшчэ могуць выратаваць інтэлект нацыі.

Вядома, што ў грамадстве, дзе дзесяцігоддзямі пасляхова прыніжалася значэнне чалавечай асобы, дзе розум і адукаванасць дэвальваваліся ўшчэнт , дзе слова "інтэлект" перайшло ў пласт лаянкавай лексікі, падобнае стаўленне да нейкай там навукі і культуры з'яўляецца цалкам зразумелым. Аднак трэба зразумець і тое, што пакуль мы не вылечыліся ад гэтага, не варта чакаць ніякіх станоўчых змяненняў (у тым ліку і эканамічных). Шлях да храма, які і так у нас традыцыйна звілісты і багністы, канчаткова зарасце джунглямі, у якіх можа быць вынішчана само паняцце ІНТЭЛЕКТ НАЦЫІ.

У перадвыбарчых лістоўках А.Лукашэнкі былі высокія словы пра тое, як адразу значна палепшыцца становішча інтэлігенцыі, калі ён стане прэзідэнтам. Застаецца спадзявацца на гэта, паколькі больш нічога не застаецца.

**Фота Тамары ХАМІЦЭВІЧ**

## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ЧАГО Ж ЧАКАЦЬ?

Адгрымелі апладысменты і віншаванні, першы прэзідэнт Беларусі заступіў на пасаду, праведзены пэўныя кадравыя змены ва ўрадзе, і грамадзяне краіны, прынамсі, тыя, хто яшчэ на нешта спадзяецца, цікавяцца — дык як жа жыць далей будзем? Ці палепшыцца жыццё ў параўнанні з тым, што зараз? Што ж, А.Лукашэнка дастаткова часта сустракаўся з журналістамі, выступаў з дакладам на сесіі Вярхоўнага Савета, маецца ягоная эканамічная праграма, прайшлі, нарэшце, маскоўскія перамовы, і пэўныя высновы зрабіць можна.

Няма сэнсу даваць хроніку падзей сустрэчы беларускага і расійскага кіраўніцтваў 3 жніўня — яна падрабязна каменціравалася ў штодзённай прэсе. Ясна адно: аб'яднання з Расіяй у той ці іншай форме пакуль што не будзе, бо яго на сённяшні дзень не жадае Масква. Далей адносіны паміж рэспублікамі будуць развівацца яўна пад дыктоўку апошняй. І хаця раней Аляксандр Рыгоравіч абяцаў быць гарантам беларускай дзяржаўнасці, на сустрэчы прамаўлялася слова "канфедэрацыя". Хаця, зрэшты, тут няма супярэчнасці — дэ юрэ БССР валодала дзяржаўнасцю і ў складзе Саюза, і нават была сябрам ААН. Думаю, што А.Лукашэнка пакіне рэспубліцы роўна столькі суверэнітэту, каб не пазбавіцца магчымасці часам нагадваць высокаму маскоўскаму начальству — бадай, яно будзе праяўляць залішнюю руплівасць (дапусцім, сунуцца са сваімі занадта рынкавымі захадамі ў наш сацыялістычны запаведнік), што ён — Прэзідэнт незалежнай дзяржавы. Гэтае ўражанне склалася значна раней за маскоўскую сустрэчу і зараз толькі пацвердзілася ў чарговы раз.

На працягу перадвыбарчай кампаніі і прэса, і сапернікі не раз адрасавалі А.Лукашэнку папрокі ў тым, што яго ўяўленні аб эканоміцы даволі цьмяныя і наогул, мякка кажучы, майстрам у гэтай сферы ён не з'яўляецца. Гэтае меркаванне прэзідэнт цалкам пацвердзіў, калі сустракаўся з журналістамі пасля абвяшчэння вынікаў другога тура галасавання: "Да нядзелі (маецца на ўвазе дзень выбараў. — В.К.) я не ўяўляў таго цяжару эканамічных праблем, які абваліўся на мяне". Як здолець гэтыя праблемы, прэзідэнт, мяркуючы па ўсім, таксама ўяўляе пакуль даволі слаба. Па праграме прэзідэнта ў вялікай колькасці рассыпаныя словы "барацьба", "разгром", "узмацненне" і да т.п., але ніякіх канкрэтных шляхоў выйсця з крызісу не паказана. Прэзідэнт абвясціў сябе прыхільнікам паступальных рэформаў без "шокавай тэрапіі", але пра нейкія нікому не вядомыя "паступальныя рэформы" ўвесь час гаварыў і Кебіч. Да чаго гэткая палітыка прывяла Беларусь, усе мы ведаем.

У дакладзе на сесіі прэзідэнт запэўніў у тым, што вяртання да камандна-адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай не будзе. Але калі ўзгадаць, што трохі раней Аляксандр Рыгоравіч казаў пра неабходнасць узмацнення дзяржаўнага рэгулявання, пра жаданне "апусціцца з макраўзроўню, са ўсялякіх рынкавых тэрмінаў, інфляцый-прыватызацый, на ўзровень вытворчасці (г.зн. перайсці ад таго, чым адразу павінна займацца выканаўчая ўлада, у галіну, куды ход ёй, згодна з ідэяй, павінен быць забаронены), — можна меркаваць, што адзінае змяненне, якога рэальна можна чакаць ад новай улады, — гэта менавіта спроба ўзмацніць камандна-адміністрацыйныя метады.

Падлаcardкоўваючыся павевам часу, прэзідэнт калі-нікалі выкарыстоўвае і рынкавую тэрміналогію. Аднак разуменне рынку ў яго застаецца на вельмі прымітыўным савецкім узроўні. "Мы стваралі (хто гэта мы? Аляксандр Рыгоравіч з камандай? — В.К.) у нашым грамадстве банкі не для ўзбагачэння банкаўскіх служачых, а для наладжвання нашай эканомікі і ўзняцця на належны ўзровень". "Бізнес-клас, калі ён хоча жыць і існаваць, павінен праводзіць палітыку ў інтарэсах простага чалавека". Відаць, ЗША і Заходняя Еўропа дасягнулі такога ўзроўню эканамічнага развіцця якраз таму, што прадпрымальнікі і банкі там клапоцяцца выключна аб дабрабыце "простага чалавека", а не аб уласнай выгадзе. І яшчэ адно шчырае выказванне: "Прадпрымальнікі, я вас прывяжу да прэзідэнта і яго палітыкі настолькі, што калі вы яго патопіце, дык патонеце разам з ім". Вельмі не хочацца, каб разам з прадпрымальнікамі А.Лукашэнка гэтак жа намёртва прывязаў да сябе і ўсю Беларусь. Што ж тычыцца непасрэдна зместу рынкавых рэформаў, дык пра яго прэзідэнтам не гаварылася нічога — увесь ягоны даклад прадстаўляе сабой дэкларацыю аб намерах, а раней зазначалася, што рэформы будуць праводзіцца зноў жа "ў інтарэсах простых людзей".

Наогул словазлучэнне "простыя людзі" новы прэзідэнт ужывае вельмі часта. На мінулых прэзідэнцкіх выбарах у Злучаных Штатах сенатар Г.Харт мусіў зняць сваю кандыдатуру з-за таго, што, як высветлілася, у яго, жанатага мужчыны, за некалькі гадоў да таго была палюбоўніца. Хай даруюць мне кансерватары — мне абсалютна ўсё роўна , колькі палюбоўніц у якога б там ні было прэзідэнта было, ёсць і будзе. Справа ў іншым. Пры дастатковай сэксуальнай раскаванасці ў ЗША (ухіл у пурытанцтва там вызначыўся толькі ў апошнія гады) амерыканскі абывацель мяркуе гэтак: звычайнаму грамадзяніну гэта, можа, і даравальна, але прэзідэнту — ні ў якім выпадку. Гэта значыць, прэзідэнт павінен быць узорам і ад "простага чалавека", адпаведна, адрознівацца. "Ваш прэзідэнт, прынамсі, нічога не ўкраў", — заявіў А.Лукашэнка. Я нават схільны думаць, што і не ўкрадзе. Аднак, на маю думку, гэта не адзіная якасць, неабходная для прэзідэнта. Большасць беларускіх выбаршчыкаў вырашылі інакш. Простыя беларускія людзі прагаласавалі за самага простага з кандыдатаў. Можна пабедаваць аб занадта нізкім узроўні палітычнай культуры насельніцтва — паказальныя ў гэтым сэнсе вынікі ў Мінску, дзе гэтая культура трохі вышэй і дзе А.Лукашэнка ў працэнтных адносінах набраў напалову меней галасоў, чым у цэлым па краіне. Можна разважаць пра тое, што выбаршчыкі прагаласавалі за Лукашэнку не таму, што былі ад яго ў захапленні, а проста палічылі яго найменшым ліхам. Асобна варта было б спыніцца на выбарчай кампаніі: некаторыя жартаўнікі, у тым ліку і самі кандыдаты, называлі яе марафонам; хутчэй, гэта быў відэакліп, прычым даволі парнаграфічны — не выпадкова першае, што сказаў журналістам М.Грыб, вярнуўшыся са Швейцарыі, было: "Нам пашанцавала, што мы некалькі дзён адпачылі ад гэтай лаянкі і абразаў, якімі запоўненыя друк і эфір".

Але ўсё гэта так, да слова. А прэзідэнтам абраны чалавек даволі рашучы і з устойлівымі прынцыпамі — адзіны з дэпутатаў, хто галасаваў супраць віскулёўскіх пагадненняў і аж да самага выбрання прэзідэнтам насіў былы дэпутацкі значок з выявай сярпа і молата. Шкада толькі, што гэта не тыя прынцыпы, рэалізацыя якіх дапаможа вывесці Беларусь з тупіка.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



## "АЛЁ, СЛУХАЕМ ВАС!": 76-94-66

**Галіна БУЛЫКА, пісьменніца:**

--Увесь тыдзень стаяла цяжкая спёка, якая прытупляла ўсе думкі, і таму ўсе падзеі бачыліся нібы праз экран, марыва ненатуральнай для нашых шырот тэмпературы. Таму з цяжкасцю ўзгадваюцца падзеі, якія адбыліся, даводзілася весці "земнаводны" лад жыцця: шмат піць "Хершы", купацца і працаваць на лецішчы.

Адна з галоўных падзеяў тыдня — візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў Маскву — супала па часе — і нейкім дзіўным чынам аб'ядналася ў маёй свядомасці -- са скандалам вакол АТ МММ. З цікаўнасцю глядзела новы блок рэкламы МММ, у якім любімая гледачамі "проста Марыя" гутарыла і з не менш любімай і не менш замежнай для нас сям'ёй Галубковых. "Проста Марыя" выглядала гэтак жа імпазантна, як і наш першы прэзідэнт у Крамлі.



У Мінеральных Водах пастаянна разгортваюцца падзеі, вартыя самага "крутога" амерыканскага баевіка. Асабліва здзівіў каментар да іх Мікалая Сванідзэ на Расейскім тэлебачанні. Я ўпэўнена, што мой не вельмі даўні аднакурснік па Вышэйшых літаратурных курсах, чачэнскі паэт Зелемхан Яндырбіеў, цяпер віцэ-прэзідэнт Чачні, пракаментаваў бы гэтыя падзеі інакш. Мяркую, што тут не абышлося без правакацыі з боку расейскіх спецслужбаў.

Спадзяюся, гісторыя з АТ МММ, якому даверылі свае сродкі мільёны расіян, абароніць нас ад прыватызацыі па расейскім узоры, прымусіць нашага прэзідэнта шукаць лепшы шлях да шчасця беларускага Лёні Галубковіча і ягоных шматлікіх сваякоў.

**Змітрок ЧЫЖ, натурфілосаф:**

--Найбольш значнай падзеяй апошняга тыдня мне, як натуралісту (гэта значыць, назіральніку за прыродай, які абапіраецца ў сваім успрыняцці свету менавіта на такі спосаб назірання) уяўляецца падвышэнне кліматычнай логікі нашага быцця: непарыўны апафеоз сонечнай актыўнасці незвычайна павялічыў каштоўнасць ценю. Сапраўды, А.Лукашэнка хаваецца ў "цень" сваёй уласнай перамогі на выбарах, здзяйсняючы палітычны пераход, які зноў ідэнтыфікуе яго з той сістэмай улады, якая існавала раней. Інстытуты ўлады пераходзяць у зону палітычнага ценю А.Лукашэнкі, атаясамліваючы сябе з палітычнай воляй народа. А народ жа тым часам здзяйсняе вялікую міграцыю з горада на лецішчы, у вёску, на Поўдзень — у цень уласных чаканняў, што жыццё зробіцца лепшым і весялейшым без нашых намаганняў.

Таму галоўная падзея тыдня, як мне ўяўляецца, не адбылася як "падзея для ўсіх", яе можна выявіць толькі ў прыватным жыцці кожнага асобнага чалавека. І гэта, на маю думку, цудоўна.

**Ля тэлефона дзяжурыў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

НАЧНЫ РЭПАРТАЖ

# ЯК ГАРТАВАЛАСЯ МАДАМ ДЭ СТАЛЬ,

**За некалькі гадзін майго начнога дзяжурства ў Цэнтральным РАУС г.Мінска я зрабіла выснову, што сёння ў міліцыі служаць альбо рамантыкі, альбо тыя, хто чакае пенсіі. Гэтая прафесія становіцца непрэстыжнай, нават распаўсюджаная дзіцячая блакітная мара — праца дэтэктыва — не прываблівае сюды новыя пакаленні. Заробкі малыя (сярэдні — 500 — 600 тысяч), дзіўныя, недапрацаваныя законы, напрыклад, аб зброі. Па статуце пасля кожнага дзяжурства міліцыянер здае свой пісталет пад ахову і ідзе дадому ў форме, на якой вісіць пустая кабура. Калі ён удзельнічае ў складанай аперацыі, дык спачатку павінен папярэдзіць злачынцу і пальнуць раз-другі ў паветра, і толькі пасля гэтага, калі пашанцуе застацца ў жывых, можа абараняцца. А колькі сёння вакансій ва ўсіх падраздзяленнях унутранай службы! Працуюць "за сябе і за таго хлопца". За апошнія два гады асноўны склад раённых аддзяленняў папоўніўся былымі армейскімі афіцэрамі, якіх скарацілі на хвалі постперабудовы.**

Уявіце сабе: я прысутнічала разам з аператыўнай групай пры афармленні справы аб самазабойстве жанчыны, якую вёў былы маёр СА. Пратакол ён складаў пры дапамозе следчага, пракурора, і нават "бывалага"... вадзіцеля міліцэйскага "газіка".

Ідучы на гэтае рэдакцыйнае "спецзаданне", я, шчыра кажучы, разлічвала на цікавыя крымінальныя справы, што існуюць у папулярных дэтэктыўных выданнях. Аб'ектамі пільнай увагі, у прыватнасці, Цэнтральнага РАУС з'яўляюцца найбольш шыкоўныя месцы нашай сталіцы: гатэлі "Юбілейны", "Беларусь", рэстарацыі і кафэ, Траецкае прадмесце, начное вар'етэ кінатэатра "Масква", казіно Палаца спорту і іншыя, так званыя "злачныя" мясціны. Ну, думаю, во дзе крыміналу будзе!

На самой жа справе адбылося ўсё зусім інакш, чым я чакала. Урэшце, як я высветліла ў "дзяжурцы", тое, што давялося пабачыць, — звычайная "аператыўка", без якой не абыходзіцца ніводны працоўны дзень, і менавіта яна адлюстроўвае нашую рэальнасць. Нічога з таго, што нагадвала б галівудскія стужкі пра шэрыфаў і ягоных паплечнікаў, я не заўважыла. Агульнае, што аб'ядноўвае, на мой погляд, праваахоўныя органы дзвюх эканамічна палярных дзяржаў — гэта адчуванне сяброўскага пляча побач і асаблівая салідарнасць, уласцівая людзям гэтай прафесіі. Міколу Лізуна, капітана, адказнага дзяжурнага, моладзь паважліва называе Кузьмічом. Ягоныя загады выконваюцца адразу ўсімі патрульнымі машынамі без дадатковых пытанняў, бо менавіта ён прымае тэлефонныя званкі аб здарэннях на ўчастку. Колькі ж "ліпавых" тэлефонных паведамленняў раздаецца ўдзень і ўначы на міліцэйскім пульце! На іх шчыра рэагуюць аператыўныя брыгады і марнуюць час у пошуках міфічнага злодзея ці чарговага трупа, "які, быццам бы, ляжаў побач з лаўкай на прыпынку". Званкі — звычайна ананімныя. А больш жорсткага закону пакарання за ложны выклік міліцыі, у нас дасюль не практыкуецца: прадугледжаныя старой літарай закона пяцьдзесят "зайцоў" не акупаюць нават і ста грамаў бензіну для "казла-газона".

## СПРАВА №...

... Аб крадзяжы кашалька з кабінета дырэктара аднаго з кафэ г.Мінска. Злодзей без цяжкасцяў прайшоў праз кухню, бо на пытанне афіцыянткі: "Да каго вы?", ён назваў імя і імя па бацьку дырэктара. Увайшоўшы ў адчынены кабінет, беспамылкова адшукаў у незачыненай шафе сумку і ўзяў партманэ, падзякаваўшы на развітанне швейцару. Грошай у кашальку, па сучасных мерках, было няшмат. І ўсё ж, не шкада капейчыну, але ж куды яна закацілася? У гэтым выпадку злодзею "дапамаглі" ўсе супрацоўнікі кафэ і асабліва даверлівасць дырэктара, якая папрасіла "наведніка" пачакаць яе ў кабінеце. Хочацца дадаць толькі, што на месца злачынства дзяжурная брыгада ў складзе следчага Аляксандра Харошкі, аператыўнага следчага Глеба Кацельнікава, намесніка загадчыка аддзела па прафілактыцы правапарушэнняў Уладзіміра Свістуна прыбыла праз 20 — 30 хвілін пасля здарэння. Шчыра кажучы, мяне надта здзівіла 40-хвіліннае афармленне папер. "Парадак такі...", — адказаў мне нехта з групы. Вось тут, карыстаючыся момантам, я і запыталася, ці не лепей спачатку адшукаць злодзея, а потым ужо займацца афармленнем справы? На мой погляд, ведаючы прыкметы злачынцы, трэба бегчы на вуліцу і шукаць яго, пакуль час працуе на цябе.

Глеб Кацельнікаў, малады следчы, апрануты ў цывільнае, адказаў, што разумее іронію дылетанта-журналіста, але ж і без крымінальных "твораў"-пратаколаў не абыдзешся. "Уявіце сабе: што мы прад'явім чалавеку, якога злавілі? На якой падставе мы затрымаем яго? Гэта ж парушэнне правоў чалавека. А пра хвіліны, якія мы тут нібыта "згубілі", не хвалюйцеся, бо патрульная служба ўжо атрымала па рацыі вусны партрэт злачынцы".

Рацыя, радыёсувязь нашай міліцыі даўно ўжо просіцца на музейную паліцу, дзе яны былі б рэдкімі экспанатамі. Уяўляю сабе, як зайздросціў бы такім экспанатам музей Скотланд-Ярда! Ці магчыма працаваць па сувязі (а гэта асноўная крыніца паступлення інфармацыі), калі радыус магнітнай хвалі закранае толькі адзін раён горада. Да прыкладу, пры правядзенні тэрміновай аперацыі патрульныя машыны "вядуць" злачынцу праз цэнтральную гарадскую сувязь. Уяўляеце? Спачатку інфармацыю перадаюць на базу, а адтуль па чарзе размяркоўваюць заданні згодна са шляхам правапарушальніка. Выканаўцы (міліцыянеры) не чуюць адзін аднаго, толькі перадаюць інфармацыю на цэнтральны пульт. Спрабую з гэтай нагоды ўявіць сабе дзейнасць Круза Кастылья, аднаго з герояў славутага амерыканскага тэлесерыяла "Санта-Барбара". Ці не звар'яцеў бы ён, амерыканскі паліцэйскі, працуючы з нашай айчыннай "камп'ютэрызаванай" тэхнікай? Цяпер мне зразу-

ПОГЛЯД

**Валянцін ГОЛУБЕЎ,**
**народны дэпутат**
**Рэспублікі Беларусь**

# ЦІ ПАБУДУЕМ БЕЛАРУСЬ?

***Не разумею, чаму нашыя людзі, бывае, што і з адукацыяй, паўтараюць падкінуты камуністычнай, праімперскай прапагандай тэзіс аб тым, што мы бедныя, залежым ва ўсім ад вялікага суседа?***

Чатыры ґады прайшло пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Беларусі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Да слаўнае даты 25-га сакавіка 1918 года — дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі дадаўся дзень 27 ліпеня 1990 года — як яшчэ адзін этап на шляху да пабудовы сапраўды незалежнай Беларусі. На жаль, толькі так на сёння можна ацэньваць гэтыя сапраўды гістарычныя дакументы. Рэальнасць паказвае — змаганне супраць Беларусі часам набывае больш моцы, чымсьці змаганне за Беларусь. Прыкметна і тое, што імкненне адрадзіць, адбудаваць дзяржаву ідзе ў асноўным знізу, а спробы зліквідаваць яе, уключыць у склад суседняй Расіі ініцыіруюцца зверху. Таму шмат прычынаў і галоўнае тут — ненацыянальнае, зманкуртаванае кіраўніцтва.

Людзі, работай якіх было змаганне супраць дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, яе нацыянальнай адметнасці, мовы, культуры (няхай не крыўдзіцца былое КПБэшнае чынавенства, але гэта так), — волляю лёсу апынуліся "ля руля" суверэннай дзяржавы. Што яна, суверэнная і незалежная, ёсць зусім ім не жаданая, сведчаць безупынныя сцвярджэнні аб тым, што адны не пражывем, што трэба дапамога, садружнасць, саюз, федэрацыя ці канфедэрацыя... Усё што заўгодна — толькі каб не самім. Пішу гэта пасля прэзідэнцкіх выбараў, ведаючы першых асобаў новага кабінета — сказанае вышэй поўнасцю адпавядала камандзе Кебіча і пакуль адпавядае камандзе Лукашэнкі. Але будзем спадзявацца, што акрамя спадара Уладзіміра Сянько з'явяцца і іншыя міністры, якія будуць валодаць дзяржаўнай мовай і прыярытэт будуць бачыць у абароне дзяржавы. Дарэчы, падчас прадстаўлення Уладзіміра Сянько на пасаду міністра замежных спраў у Вярхоўным Савеце адбылася цікавая і паказальная падзея. Калі былі пералічаны замежныя мовы, якімі валодае прэтэндэнт, спадар Мечыслаў Грыб дадаў: "і беларускай". Заўважце, гэта гаварылася не пра рускую, а пра сваю, дзяржаўную...Выказванні спадара Лукашэнкі аб мове і культуры і падчас прэзідэнцкай кампаніі і пасля выбараў добра вядомыя. Не будзем сёння ацэньваць выказванні, пачакаем дзеянняў. Адзначым толькі адно — кіраўніцтва Беларусі працягвае думаць і размаўляць на мове суседняй дзяржавы. Высновы кожны зробіць сам.

Нявызначанасць як ва ўнутранай, та і ў знешняй палітыцы не спрыяе стварэнню станоўчага іміджу Беларусі за мяжой. Дарэчы, я не згодны з тэзісам аб тым, што Беларусь не ведаюць у свеце. Ведаюць, але настолькі, наколькі яна сябе паказала. І не трэба забываць, што пра Беларусь ніколі не будуць ведаць і гаварыць столькі і так, як пра ЗША ці Расію. Але з іншага боку і добра, што няма пра нас такіх "шырокіх" ведаў як пра той жа Карабах. А Беларусь сёння ўжо прысутнічае і ў ААН, і ў розных міжнародных еўрапейскіх арганізацыях.



Справа ў іншым — як нашая дзяржава пасля абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце адразу, з добразычлівай прыхільнасцю была прынята ў сусветную сям'ю народаў. Успомніце той перыяд прызнання і ўстанаўлення дыпламатычных зносін з Беларуссю... Першымі зрабілі гэта нашыя суседзі і найбольш буйныя дзяржавы свету.

Сёння нашую дзяржаву прызналі больш за 120 краін. Так што ведаюць, але, зноў жа, як? Першапачатковыя добрыя адносіны, інфармацыя аб Беларусі як краіне найбольш пацярпелай у II сусветнай вайне і ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі выклікалі не толькі спагаду, але і жаданне дапамагчы. І справа не ў так званай "гуманітарнай" дапамозе, пад якой у нас разумеюць у асноўным рэчавыя і харчовыя пасылкі. Збіраліся дапамагаць эканамічна — праз супрацоўніцтва, інвестыцыі, сумесную творчасць, навуковую дзейнасць, вучобу і г.д. Як гэта было ўспрынята? У многім — як імкненне нас "падпарадкаваць": успомніце крытыку спадаром Лукашэнкам дзейнасці фонду Сораса і "ініцыятывы Корпуса міру", нежаданне спадара Кебіча прыняць таго ж спадара Сораса і галоўнае, пасля заявы аб нейтральнасці і бяз'ядзернасці — уступленне ў вайсковы саюз з Расіяй, захаванне ядзерных базаў і г.д. Адзначым і тое, што на сённяшні дзень Беларусь — адзіная дзяржава, якая не падпісала ініцыятыву "Партнёрства дзеля міру". І не проста не падпісала, а, паспрабаваўшы ўдзельнічаць у супрацьстаянні Расіі з НАТО, атрымала імідж краіны-сатэліта.

Атрымалася, што спачатку МЗС зрабіла афіцыйнае паведамленне аб тым, што дакумент будзе падпісаны, але — пасля пэўных заяў Расіі — па тэлефоне адмянілі сваё рашэнне. Расія ж пагуляла ў палітыку, выказала свае патрабаванні і далучылася да вышэйзгаданай ініцыятывы. А Беларусь такім чынам яшчэ раз паказала, што сваёй палітыкі на сёння не мае. Вось тут і палітыка, і гісторыя, і культура...

Таму пакуль не будзе сваёй уласнай унутранай палітыкі, то не будзе і знешняй.

А без гэтага няма дзяржавы.

І ніколі, застаючыся ў такім стане, мы не зможам зрабіцца паўнавартасным членам міжнароднай супольнасці. Прыклад ёсць — БССР, якая хоць і з'яўлялася членам ААН, ніколі не была і не лічылася сапраўды вольнай краінай, паўнавартаснай дзяржаваю. На жаль, не вельмі далёка мы і сёння адышлі ад такога стану.

Не разумею, чаму нашыя людзі, бывае, што і з адукацыяй, паўтараюць падкінуты камуністычнай, праімперскай прапагандай тэзіс аб тым, што мы бедныя, залежым ва ўсім ад-вялікага суседа. Паглядзіце, у свеце зусім нямнога краінаў, у якіх ёсць свая нафта і вугаль, бурштын і жалезная руда, урадлівая глеба, лес і мінеральныя ўгнаенні (дарэчы, з 6 млн.т угнаенняў, што здабываюцца ў нас, 4 млн.т ідзе праз Маскву).

У апошні час стала зразумела, што ёсць на Беларусі сваё золата, вось-вось пачнецца здабыча алмазаў, ёсць усе магчымасці пашырыць здабычу нафты. Геастратэгічнае становішча дзяржавы надзвычай выгаднае. Тут не толькі вайскова-палітычная сітуацыя магла б даваць нам рэальны прыбытак, але і тое, што праз Беларусь праходзяць важнейшыя шляхі зносін (чыгунка, шаша, авіяцыя, трубаправоды) як з захаду на ўсход, так і з поўдня на поўнач. Падобнае становішча ў Цэнтральнай Еўропе займае Аўстрыя. Але Аўстрыя з гэтага і жыве, больш за палову неабходных энерганосьбітаў аплочваючы коштам платы за транзіт, праезд па яе тэрыторыі і г.д. Дарэчы, Аўстрыя, выкарыстоўваючы сваё геастратэгічнае становішча, трымае даволі высокія (па еўрапейскіх мерках) цэны бадай што на ўсе тавары і паслугі і атрымлівае з гэтага дадатковы прыбытак. Справа ў тым, што ў грамадзян Аўстрыі і зарплата вышэйшая — плоцяць прыезджыя ці праезджыя.

Гэта можна было б зрабіць і Беларусі, але трэба ўласная валюта, межы, пашпарт. Ды хто пра гэта думае! У нас не звяртаюць увагі і на кампактнасць размяшчэння вытворчых сілаў на тэрыторыі краіны, на тое, што колькасць насельніцтва дазваляе стварыць сістэму сапраўды эфектыўнага кіравання, а потым і самаразвіцця грамадства.

Чамусьці толькі замежнікі звяртаюць увагу на вельмі высокі ўзровень кваліфікацыі беларускіх рабочых і інжынераў, вялікія і якасныя навуковыя дасягненні. Парадокс: разумеючы, што без дапамогі навукі нам не вылезці з гэтай ямы, ідзе 50-працэнтнае скарачэнне супрацоўнікаў Акадэміі навук Беларусі. Навошта пішу гэта? Вельмі хачу, каб інтэлігенцыя, работнікі культуры, навукоўцы (а менавіта яны з'яўляюцца асноўнымі чытачамі "Культуры") зразумелі б самі, упэўніліся і мы разам змаглі б пераканаць наш народ у тым, што мы багатыя, разумныя, любім і ўмеем працаваць, і таму ў нас няма іншага выйсця, як будаваць сваю дзяржаву і ладзіць у ёй лепшае жыццё для сябе і сваіх дзяцей.

Я ўпэўнены ў выдатнай будучыні Беларусі і нашага народа. Развіццё нацыі дайшло да ўсведамлення неабходнасці існавання ўласнай дзяржавы. І шляху назад няма. Калі будзем жыць, будуючы сваё, працуючы на сябе, не ваюючы, а ствараючы, — абавязкова надыдзе шчасце і дабрабыт. Гэта паказала Гісторыя.

Але беларусам заўсёды трэба памятаць урокі, якія нам гісторыя давала. Маю на ўвазе зноў жа гісторыяй дадзеных нам суседзяў — Расію і Польшчу і амаль заўсёднае існаванне трох накірункаў у палітычным, а значыць, і гаспадарчым і культурным жыцці краіны. Прарасейскі, прапольскі і незалежніцкі накірункі ў розныя перыяды нашай гісторыі мелі розную вагу. Але заўважана, што любы перахлёст ці ў бок Польшчы, ці ў бок Расіі заўсёды прыводзіў да непажаданых для нашага народа вынікаў. Менавіта ў такія часіны паўлялічвалася пагроза самому існаванню нацыі, дзяржавы, мовы, культуры. Таму трэба сябраваць з усімі, а рабіць сваю, беларускую справу.

Пішу пра гэта таму, што адчуваю пэўную пагрозу ў тым, што і ранейшы і цяперашні ўрад праводзіць, мякка кажучы, не зусім незалежніцкую палітыку. Але спадзяюся, што не заўсёды ж беларусы будуць спасылацца на дрэннае начальства.

**Фота Аляксандра СТАДУБА**

# АЛЬБО ГОРА МАКАВАЕ

мела, чаму міліцыянер у нашых кінастужках — амаль заўсёды аб'ект гумару, а ягоныя прыгоды — камедыйныя. Мне, папрацаваўшы некалькі разоў запар на выездах з аператыўнай брыгадай, хочацца крычаць уголас: "Людзі, над кім смеяцеся?" Хіба не чакаюць дома жонка і дзеці дзяжурнага міліцыянера, які ўсю ноч праседзеў спіной да ваконнай шыбы за пультам сувязі? Можна толькі здагадвацца, што можа адбыцца заўтра, калі ўжо сёння забіваюць супрацоўнікаў ДАІ пры звычайнай праверцы дакументаў.

Альбо вось яшчэ праблема. Няма грошай, каб пачала працаваць цэнтралізаваная камп'ютэрная сістэма. Сёння камп'ютэр —гонар кожнага аптавіка-гандляра, каштоўнасць на ўзроўні дзіцячай цацкі. А вось, здаецца, нашай міліцыі камп'ютэрная тэхніка не патрэбная. Зразумела: у дзяржавы няма зараз грошай (а калі ж яны будуць?), але ж чаму нельга было б выкарыстаць вопыт заходніх краін, дзе муніцыпальныя праваахоўныя органы існуюць не толькі за кошт мэрыі, але і на спецыяльныя падаткі жыхароў горада, раёна? Чаму мы заўсёды ствараем сабе складанасці? Вось тады б мы маглі запытацца: чаму міліцыя прыехала на выклік толькі праз сорак хвілін і дзе мая бялізна, што вісела на вяроўцы на двары. Гэта, канешне ж, толькі мары, бо на самой справе, такія пытанні "селі макам" (пра яго пазней) на чыімсьці "дзяржаўным" сталe-гародзе і цярпліва чакаюць свайго вырашэння.

## "...КОЖНЫЯ ТРЫ ДНІ — ТРУП"

База (аддзяленне РАУС). Бясконцыя тэлефоныя званкі, тэлетайп паведамляе аб амаль штогадзінным крадзяжу аўтамабіляў.

"... 1 жніўня ўгнаны а/м BMW чырвонага колеру з праспекта Машэрава..."

"... Кватэрны крадзеж. Злодзей пакінуў адбіткі пальцаў, якія не зафіксаваны ў картатэцы, і ліст, у якім просіць прабачэння за свае дзеянні. Патрабуецца эксперт."

М.Лізун (седзячы за пультам):

— Сёння цікавага для вашай газеты мала. Вось каб вы ўчора прыйшлі... Труп быў — самазабойца.

— Ці вялікі працэнт смяротнасці на вашым участку? — запытала я.

— Гарадскую статыстыку не ведаю, але калі паглядзець у дзяжурны сшытак (гартае), амаль кожныя тры дні — труп. Вось зірніце: ці тапелец, ці самазабойца, ці гвалт. Бывае і некалькі такіх злачынстваў за адно дзяжурства... Прабачце... (зазваніў тэлефон). Дыктуйце адрас. Супакойцеся, калі ласка, мы зараз будзем. Група, на выезд. Сямейны скандал па вуліцы Старавіленскай....

Цёмна, блукаем паміж вялікіх гмахаў аднаго са "спальных" раёнаў Мінска. Фары натыркаюцца на невялікую групу людзей. На зямлі перад уваходам у пад'езд ляжыць жанчына. Малады мужчына, што стаіць побач, плача. Раптам начную цішыню прарэзвае сакавіты мат: "Выключы фары,..., я сказаў!". Пракурор і аператыўны следчы перайшлі афармляць справу ў машыну. Эксперт не змог як трэба сфатаграфаваць ахвяру, бо ўсё той жа малады п'яны голас не супакойваўся: "Адыдзі ад маёй маці і не здымай яе! Я забараняю табе, казёл... Інакш паб'ю апарат і застанешся, сука, без працы!"

Невядома, што прымусіла 63-гадовую жанчыну, маці-гераіню, якая, відаць, мела медаль за шасцярых дзяцей, выкінуцца з вакна дзевяціпавярховага дома. Ці тое, што сыны п'юць, ці тое, што сама піла разам з імі (сведкі паказалі)? А можа, цяжкае матэрыяльнае становішча, калі ў свае сталыя гады, зарабіўшы пенсію і выгадаваўшы дзяцей, яна вымушана была працягваць цяжка працаваць у "Навінках" санітаркай?

Хачу напрыканцы спыніцца на "дыпламатыі перамоў" міліцыянераў і падаткаплацельшчыкаў (не знайшоўшы іншага слова да тых "дзетак"). Калі б не такт і не цярплівасць супрацоўнікаў Савецкага РАУС Анатоля Брадніцкага, Івана Аляксеенкі і міліцыянера-вадзіцеля Сяргея Кузняцова, то гэты п'яны гурт з пацярпелых і спачуваючых лёгка мог бы абрынуць свае эмоцыі на галовы супрацоўнікаў міліцыі. Гэта была не проста брудная лаянка сыноў, а цынічныя загады следчым, аздобленыя словам "маць". Праўда, у іншым кантэксце...

Ведаеце, мне не хацелася выказваць свае спачуванні родным нябожчыцы, калі скончыліся працэсуальна-папяровыя фармальнасці, а вось служкі закону зрабілі гэта, хаця ў спіну ім ляцелі словы: "Памятай, сука, калі маці забяруць у морг, ты... не выйдзеш адсюль!"

Пад'ехаўшы раніцай дадому, я ўбачыла, як два падлеткі зразалі мак-самасейку на маім прысядзібным участку. Грушаўка калісьці славілася не толькі вядомымі грушамі-бэрамі, але і сваім макам. Вось і расце ён з тае пары здзічэлы. Таму і прываблівае ён аматараў "кайфа". Тут я, сутыкнуўшыся нос у нос з прадстаўнікамі "макавай наркамафіі", надта перапалохалася, але ўсё ж такі здолела дастаць дыктафон.

— Мак — гэта "зеро". Вось цяпер новы наркотык ідзе з Амерыкі — "Белая мара, альбо Белы крышталь"... Не чулі? (?). Паўграма каштуе 200 даляраў. Яго можна нават у вочы сыпаць. Кажуць, кайф такі, быццам бы з Богам размаўляеш. Мы не спрабавалі, ды наўрад ці атрымаецца калі... Яго прывозяць па спецыяльнай замове. Прыкідваеш, якім трэба быць "крутым"?

З крыкам "мама-а-а!" васільеўскай гераіні з аповесці "А досвіткі тут ціхія..." я ўляцела ў хату.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** Я не хачу быць загартаванай як сталь, прапускаючы праз свае нервы і сэрца ўсе жахі начнога крыміналу, які, на жаль, быў, ёсць...

Калі ў пад'ездах дамоў выбухаюць бомбы, калі дзеці не вяртаюцца са школы, а аўтаматныя чэргі рэкецірaў косяць звычайных прахожых... А яшчэ наперадзе знакаміты ўваход у рублёвую зону: ці не ўздыме гэта новую хвалю — хвалю чарговага, каўказскага крыміналу толькі на нашай зямлі?

**Ж.В.**

НА АБШАРАХ СВЕТУ

# ЗА ДУНАЕМ, У БРАЦІСЛАВЕ...

Яшчэ не даязджаючы да Славакіі, мы адчулі, калі так можна сказаць, яе праблемы: у Будапешце ля касы на Славакію (ці на шлях праз яе) стаяла мноства людзей, вернутых з пагранічнага пункта, асабліва многа было "нашых" з Малдовы, якія проста не ведалі, што існуюць нейкія непаразуменні паміж дзвюма дзяржавамі. Вярталі і тых, хто ехаў праз Славкію ў Германію. Мы не турбаваліся: па-першае, мелі запрашэнне ад Міністэрства культуры, па-другое, непаразуменняў паміж Славакіяй і Беларуссю няма. Якраз наадварот — калі для выезду ў Польшчу патрэбна віза, то ў гэтую краіну мы мелі права бязвізавага ўезду. І ўсё ж змрочныя прагнозы, якія нам выдавала чарга тых, хто спадзяваўся зноўку "прарвацца" праз мяжу, амаль апраўдаліся: не "пазнаўшы" новага беларускага пашпарта, які быў у аднаго з журналістаў, усіх нас затрымалі, і толькі дзякуючы энергіі і рашучасці нам удалося перасячы гэтую запаветную мяжу і дабрацца да Браціславы.

Скажу адразу — любая новая краіна выклікае цікавасць, але Славакія для нас, беларусаў, асабліва прыцягальная. Як жартавалі нашы гаспадары: "вы — тыя ж славакі, толькі забыліся, адкуль прыйшлі на вашы сённяшнія паўночныя землі". Не, мы не забыліся, многія словы гэтай мовы адгукаюцца пракаветным рэхам у геннай памяці: бацян, ядловец, пенязь, дотык, імша, поліўка... А колькі ўспамінаецца ў нашых песнях Дунай, па назве якога носяць тое ж імя ручаі ля Віцебска і каля Менкі! Браціслава і яе самы старажытны замак, з прыступак якога мы глядзелі на Дунай, — гэта не толькі турысцкае дзіва...

Аднак у краіну былога сацыялістычнага лагера мы ездзілі не толькі па экзотыку. Славакія, як і тыя дзяржавы, што будуюць сваё сённяшняе жыццё па заходнім узоры, болей не азіраючыся на "вялікую сястру", мае свае здабыткі ў посттаталітарным марафоне, праз які, хочучы таго ці не, праходзім сёння і мы.

Апрача таго, ёсць у гэтай краіны многія сходныя з нашымі рысы. Яна таксама аддзялілася ад больш моцнай суседкі — Чэхіі — і спрабуе выйсці на свой уласны шлях, але працэс гэты даволі балючы. Яго можна прасачыць на прыкладзе былой журналісцкай арганізацыі, якая з 1989 года падзялілася на дзве. Абедзве яны за дэмакратычны шлях, абедзве адвяргаюць камунізм (дарэчы, на нашае пытанне: "Ці ёсць у краіне камуністычныя выданні?", нам адказалі адмоўна), але адносна самастойнасці маюць супрацьлеглыя погляды. Аб'яднанне славацкіх журналістаў, якое ўзначальвае доктар Дармо, лічыць, што толькі самастойнасць дасць магчымасць у поўнай меры захаваць мову і самабытнасць нацыі. Таму, натуральна, усё адмоўнае, што пішацца аб краіне, прымаецца вельмі балюча, і "аб'яднанцы" стараюцца на гэта рэагаваць. Сіндыкат славацкіх журналістаў рэагуе на падобныя рэчы не надта, і яго журналісты, як нам падалося, лічаць сябе трохі больш прагрэсіўнымі, яны болей арыентуюцца на Захад. Аб'яднанне ж, не адвяргаючы заходніх каштоўнасцяў, тым не менш не адварочваецца і ад Усходу. Дарэчы, якраз тут былі найболей інфармаваны пра нашу моўную і культурную сітуацыю, і, шчыра кажучы, менавіта ў асяроддзі гэтых журналістаў мы па-сапраўднаму адчувалі еднасць нашых праблем і наша даўняе братэрства.





Усё ж, як ні кажыце, але прыналежнасць да "вялікай сястры", якая так нядаўна дыктавала сваю палітыку ўсім сацыялістычным краінам, наклала свой адбітак на адносіны да былых "савецкіх". У славакаў, як і ў чэхаў, яшчэ жывыя ўспаміны аб "пражскай вясне". Летась нямецкая гаспадыня, у якой я кватаравала, здзекліва час ад часу спявала песенькі на ламанай рускай мове — ёй даводзілася вучыць рускую мову ў школе. У час размоваў у Славакіі мы, зразумела, гаварылі праз перакладчыцу — але варта было закрануць "гарачыя тэмы", як нашы субяседнікі вельмі часта пераходзілі на рускую мову, самі таго не заўважаючы... Не ведаю, такі ж, альбо меншы ці большы сіндром у славакаў на ўсё чэшскае, але падчас гаворкі прагучалі і такія выразы: "пры раздзеле флота чэхі пакінулі сабе караблі, нам жа засталіся якары". Невялікай Славакіі цяпер даводзіцца прыкладаць намаганні, каб не дазволіць краіне ператварыцца ў "прахожы двор" Еўропы альбо ў транзітную зону, таму строгасці пагранічнікаў можна зразумець: ці не тыя ж праблемы і ў Беларусі? Дарэчы, і ці не тое ж раздзяленне сімпатый да нацыянальнага і так званага "інтэрнацыяналізму"? Праўда, з невялікай папраўкай: у Славакіі ніхто не аспрэчвае само існаванне нацыянальнай мовы. Яе любяць і ёю карыстаюцца ўсе журналісты, і замаху на яе існаванне не дазволіць ніхто — ні дзяржава, ні прэса. Як бы ні гаварыў з горыччу спадар Дармо аб тым, што "ў журналістыку прыйшло новае пакаленне, якому не баліць нацыянальнае", гаворка ўсё ж ідзе толькі пра розныя ступені падыходу да нацыянальнай культуры, а не пра яе адмаўленне ўвогуле.

Праблемы ж у славацкай культуры і прэсы ёсць, і немалыя. "У дзяржаўных руках" засталіся толькі радыё і тэлебачанне, свабода ў прэсы поўная. Як казалі нам у Сіндыкаце славацкіх журналістаў, "не ўрад вырашае, што важна, а самі журналісты. Бо яны такія ж грамадзяне, як і міністры". І ў якасці прыкладу, што журналіста нельга прымушаць пісаць так, як захоча ўрад, прыводзілі прымаўку: "Можаце каня прывесці да вады, але не можаце прымусіць яго напіцца". Аднак жа свабода свабодай, а грошы на ўтрыманне газет і часопісаў трэба даставаць. Вядома, дапамагае рэклама, спонсары — але яны хочуць плаціць за тое, што ім падабаецца. Існуе рэальная небяспека ўплыву на прэсу капіталу — свайго і замежнага. Славакія блізкая да заходняга свету, і таму тамтэйшы капітал робіць спробы завалодаць тутэйшай прэсай, а значыць, інфармацыйнай прасторай. Робяць такія спробы і свае, айчынныя мільярдэры. Іх у адной Браціславе, па афіцыйных дадзеных, ажно 63 чалавекі (нагадаем, што на даляр прыходзіцца 29 крон, а пражытачны мінімум прыкладна роўны 2400 кронам).

Гэтыя праблемы найбольш хвалявалі журналістаў Аб'яднання, чыя газета "Slovenska Republika" мае даволі вялікі для краіны наклад — 70 тыс. экз. "Мы ставім пытанне аб стварэнні антыманапольнага закону, які б не дазволіў канцэнтраваць у адных руках шмат газет". Яны грунтуюцца на сумным вопыце таго, як адзін з мільярдэраў папросту купіў адну з газет і стаў дыктаваць праз яе свае ўяўленні аб маралі і бізнесе, у той час як крыніцы ягоных даходаў досыць цёмныя.

Трэба, аднак, дадаць, што калі парламент у ліпені прагаласаваў за закон, які абавязвае бізнесменаў прад'яўляць дэкларацыі аб даходах падчас прыватызацыі, гэта адразу ж нарадзіла шэраг пытанняў і праблем: па-першае, іншаземныя банкі і прадпрымальнікі адмовіліся гэта рабіць, па-другое, хто тады будзе купляць аб'екты прыватызацыі, якія прадаць неабходна, бо яны не прыносяць прыбытку?

І ўсё ж прадпрымальнікі хочуць ад урада пэўных законаў, якія б абаранялі іх і давалі магчымасць працаваць. Уладальнік вядомых па Еўропе піўзаводаў, якія выпускаюць піва "Марцінер", Караль Канарык, напрыклад, лічыць, што неабходная цэлая сістэма абароны ўласнага нацыянальнага рынку, які б мог даваць усё новыя і новыя рабочыя месцы. Яго выказванні аб тым, што, берučы напавер долары, трэба іх не праядаць, а накіроўваць на развіццё тэхналогій, нагадалі выступленні нашага Ст.Шушкевіча часоў яго ранняга рамантычнага старшынёўства ў беларускім парламенце. (Дарэчы, цікава было б даведацца, на якія-такія тэхналагічныя ператварэнні накіроўваў урад Кебіча ўзятыя крэдыты...)

Сам Канарык, напрыклад, сядзіць у пазыках, але спадзяецца іх аддаць, пашыраючы рынак збыту піва "Марцінер". Што да мяне, то, не будучы аматарам піва ўвогуле, я, пакаштаваўшы гэтае піва і адзначыўшы яго смак, палічыла, што наша лідскае не горш, толькі вось "таварны выгляд" нашага, безумоўна, не параўнаць з яго славацкім сабратам. Пабываўшы на заводах Канарыка, мы пачулі аповяды аб тым, што першае, з чаго пачынаў новы ўладальнік, — гэта максімальная ачыстка тэрыторый і тэхналогіі прыгатавання "Джона Ячменнае Зерне". "Пераможа той, у каго лепшае афармленне і смачнейшае піва", — афарыстычна сфармуляваў Канарык, паставіўшы афармленне ўсё ж раней за смак.



Як і ў нас, даходы простага чалавека невялікія. Невялікія, як і ў нас, заробкі журналістаў — праўда, яны амаль усе ўдзельнікі акцыянерных таварыстваў, паціху набіраюць ад рэкламы. Рэдактары часопіса "Славенка", аднаго з самых папулярных жаночых часопісаў, з горыччу гаварылі пра тое, што юныя дзяўчынкі, працуючы, напрыклад, у банку, маюць дачы і машыны, чаго пакуль не могуць сабе дазволіць немаладыя журналісткі. Але, як аптымістычна сказала рэдактарка Алена Тапаева, "я кіруюся прынцыпам маёй бабулі — прыкрывайся пярынай, на якую хапае грошай".

Усё тое, праз што зараз праходзіць Славакія, непазбежна павінны прайсці і мы. І таму, калі бачыш, колькі ўвагі цяпер пачынае надавацца ў краіне турызму, які пакуль не прыносіць столькі прыбытку, колькі можа — у асноўным, з-за нізкага, не міжнароднага ўзроўню сервісу, — хочаш звярнуць увагу нашых уладаў на тое, што і нашы археалагічныя і гістарычныя помнікі могуць і павінны стаць нарэшце аб'ектам самай пільнай увагі. На Беларусь наўрад ці захочуць у бліжэйшы час "нахлынуць" замежныя турысты — перш за ўсё таму, што нашы ўмовы жыцця іх палохаюць. А шкада!

Пасля нашай кароткай паездкі прага лепей пазнаёміцца з гэтай краінай не прайшла, а, наадварот, узмацнілася. Яе чароўная прырода, Татры, рамантычная, з велічнымі саборамі і помнікамі Браціслава, блізкія нам, беларусам. І, магчыма, калі мы, нарэшце, зможам зарабляць па-чалавечы, мы станем проста прыязджаць адзін да аднаго — журналісты да журналістаў, пісьменнікі і артысты — да сваіх калег. Дый і проста, каб адпачыць у іншай краіне, дзе ёсць на што паглядзець, каб дакрануцца да іншай культуры.

... Я, напрыклад, так і не стала шукаць Вольгу Кавацічову, якая ў 1989 годзе склала зборнік беларускай прозы "За белым снегам" і пераклала на славацкую апавяданні Генрыха Далідовіча, Аляксея Дударава, Уладзіміра Арлова, Алеся Жука, і сярод іншых і маё "Апоўначы, калі б'юць куранты". Па-першае, няхай пройдзе час, калі мы ўсе трохі ачомаемся ад нашых палітычна-эканамічных віражоў і зноў адчуем сябе не жабракамі, а тым больш не "сацыялістычнымі братамі". А па-другое, адзіны з усіх часопісаў, што працуе на дзяржаўнай датацыі, гэта "Literárny týždennik", і настане час, калі нам захочацца зноў чытаць адзін аднаго і перакладаць нашыя творы для сваіх літаратур, як рабілі мы праз усе, няхай сабе і таталітарныя, часы. Прынамсі, нашае збліжэнне са Славакіяй, распачатае маладым і энергічным міністрам Любамірам Романам, пачалося. І, можа быць, яно будзе рухацца і далей...

**Вольга ІПАТАВА**

*На здымках:*

1. Гістарычны цэнтр Браціславы. Ратуша.

2. Вежа "кларысак" у Браціславе.

3. На сустрэчы з прадстаўнікамі "Аб'яднання славацкіх журналістаў (навінараў)".

**Фота аўтара**

АВАНСЦЭНА

# "МНЕ АДДАЛА ВАЙНА ЎСЕ ЛІТАСЦІ СВАЕ..."

Пра кіно я амаль нічога не пісаў, хаця калісьці, даўным-даўно, меў да яго непасрэднае дачыненне. Але вось нядаўна паглядзеў чатырохсерыйную тэлевізійную дакументальна-публіцыстычную стужку "Пасля перамогі" — і ўзяўся за пяро. Бо ўбачыў у гэтай эмацыянальна-суровай і трывожнай карціне-споведзі нестандартны аўтарскі погляд, нязвыклы падыход і ацэнку некаторых трагічных і гераічных падзеяў мінулай вайны на Беларусі. Паводле жанру гэта фільм-маналог. Тут і ўспаміны, і роздум аб Вялікай Айчыннай, аб часе гітлераўскай акупацыі нашай рэспублікі, і каментар да шырокавядомых і зусім не вядомых дакументальных фільмаў пра вайну, і спрэчка з дагматычным поглядам на яе. Спрэчка з былой ура-патрыятычнай, бальшавіцкай, калі хочаце, "партыйнай" трактоўкай падзеяў таго, цяпер ужо далёкага, сапраўды гераічнага часу. "Гістарычнай класікай сталася грандыёзная драма вайны", — казаў аўтар і вядучы фільма Валянцін Тарас у паэтычным эпіграфе да першай серыі, якая мае назву "Чорны чэрвень". І далей: "...і, нібы вулканічная лава, боль пякучы і гнеў скамянеў... Сёння мне і не верыцца нават, што і я ў закутку не сядзеў. Не чакаў, чым закончыцца драма — дзея бітвы між злом і дабром, — што і мне даваўся таксама быць героем, а не гледачом".

Аднак слова "герой" прамаўляецца тут не ў тым сэнсе, як звычайна, калі мы гутарым аб вайне. Аўтар — не герой, які здзейсніў нейкія подзвігі, а проста асоба, якая ўдзельнічае ў "грандыёзнай драме вайны", на якой ён быў радавым з радавых, да таго ж — хлопчыкам: у 41-м яму было адзінаццаць з паловай, у партызаны пайшоў у 43-м, у трынаццаць гадоў.

Успаміны таго хлопчыка, якім тады быў аўтар, спалучаныя з роздумам сённяшняга сталага чалавека, і складаюць асноўны змест кінастужкі. Аўтарскае стаўленне да сябе самога — пацана-партызана і да сівога, так бы мовіць, мемуарыста, — выяўлены, ізноў-такі, у паэтычным эпіграфе да чацвёртай серыі —"Ліпень вызвалення":

*Ў дазоры я стаю.*
*У гушчары кустоў.*
*Вінтовачку сваю*
*Узяў напагатоў.*
*І палец — на курку.*
*Гляджу ў зялёны змрок...*
*Зязюльчына "ку-ку"*
*Даносіцца здалёк.*
*Зязюля кажа мне,*
*Што пражыву сто год...*
*Ды тут як паласне*
*Аднекуль кулямёт...*
*Бывайце, сто гадоў!*
*Мой доўгі век, бывай!*
*Памерці я гатоў*
*За свой бацькоўскі край...*
*Хоць памяць аб вайне*
*Глыбокая мая,*
*Але здаецца мне,*
*Што хлопчык той — не я,*
*Што ў лесе той прапаў,*
*Згубіўся назаўжды,*
*А я ў зязюлі ўзяў*
*Сабе яго гады.*
*Мне аддала вайна*
*Ўсе літасці свае...*
*І нейкая віна*
*Спакою не дае...*

Гэта віна, а дакладней, адказнасць перад тымі, хто загінуў, — таксама адзін з "нерваў" фільма. Адказнасць перад мёртвымі і рэзкая нязгода з тымі, хто спрабуе сёння скінуць Вялікую Айчынную з высокага п'едэстала гісторыі, сцвярджаючы, што была не нашая вайна, а вайна Сталіна і Гітлера, якія — адзін чорт. Не, гэта была наша, народная, сапраўды айчынная вайна, без перамогі ў якой не было б і сённяшняй незалежнай Беларусі.

Для беларускага тэлебачання — гэты фільм, на маю думку, мае прынцыповае значэнне. З беларускага экрана ТАК пра вайну яшчэ ніхто не казаў. Безумоўна, у стужкі знойдуцца і свае суровыя крытыкі, хтосьці не прыме ні аўтарскай канцэпцыі, ні формы падачы матэрыялу, аднак стваральнікі фільма і не прэтэндуюць на "ісціну ў апошняй інстанцыі", не думаюць, што іхняя стужка — бездакорная ва ўсіх адносінах. Проста яны імкнуліся сказаць праўду, якую ведае, якую перажыў, здабыў многімі гадамі роздумаў і душэўных пакутаў аўтар сцэнару і вядучы, былы юны партызан, вядомы пісьменнік і паэт Валянцін Тарас. Гэта — ягоная праўда. Але — праўда! Хтосьці мае іншую? Магчыма! І хай выкажа яе, калі хоча ды можа, бо вялікае, усеабдымнае палатно ствараецца з мазаікі, з тысяч і тысяч лёсаў. Рэжысёр фільма — Валерый Жыгалка, памочнік рэжысёра — Сямён Шчаглоў, аператар — Юрый Санжароўскі.

Застаецца дадаць, што вельмі ўдалым аказалася музычнае афармленне, якое арганічна зліта са зместам карціны і асобай вядучага. Цудоўна ўвайшла ў стужку песня Уладзіміра Мулявіна на тэкст Валянціна Тараса "Праважала сына маці", напісаная калісьці для праграмы ансамбля "Песняры" — "Праз усю вайну".

**Барыс КРЭПАК**

# АДНА НАДЗЕЯ -- НА "ПЕСНЯРОЎ"

Шкада, як кажуць, што "ўсё добрае заканчваецца хутка". І ўсё ж мне здаецца, гэта прыказка больш пасуе да былога фестывалю "Славянскі базар — 93". Канцэрты ж сёлетняга фестывалю праходзілі на нашай зямлі, а некаторыя з іх, вельмі цікавыя, нават не трансляваліся па нацыянальным тэлебачанні. Нават адкрыццё і закрыццё фестывалю былі скарочаныя ў эфіры на сорак хвілін, можа таму, што сёлета свае правілы гульні дыктавала Расія? А што ж казаць пра конкурс маладых выканаўцаў? Я разважаю, вядома, як глядач, а глядач — гэта таксама суддзя, і мяне здзівіла тое, што ў конкурснай праграме не прагучалі песні на беларускай мове, а ўдзельнікі аддалі перавагу мове польскай.

Адно толькі мяне ўзрадавала — творчы вечар, прысвечаны 25-годдзю выдатнага ансамбля "Песняры". На жаль, не ўсе ветэраны калектыву прыехалі на свята — прыгожыя ветэраны, натхніцелі беларускай песні -- Уладзіслаў Місевіч, Леанід Барткевіч, Анатоль Гілевіч, Ленід Тышко, Юрый Дзянісаў... Якое ж адбылося цудоўнае свята, калі яны ўсе сабраліся на гэты незабыўны летні, святочны вечар!

Пра "Песняроў", гонар нашай Беларусі, можна шмат гаварыць. А заслуга ў гэтым — нашых цудоўных хлопцаў і, галоўнае — кіраўніка ансамбля Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна, які прыехаў на Беларусь з Урала і які раней нават не ведаў беларускай мовы. Аднак ён узняў нашу беларускую народную песню на верхавіны Эстрады, і яна загучала ў Амерыцы, Мексіцы, Карэі і г.д. Уладзімір Мулявін і яго калегі — былыя, і цяперашнія — заслугоўваюць вялікай павагі, а ў нашага класіка, ансамбля "Песняры" — і па сённяшні дзень няма сваёй студыі. Мне сорамна за гэта. Толькі абяцанкі-цацанкі з боку ўрада? А шкада. Бо школа "Песняроў" магла б выхаваць цэлую кагорту сапраўды беларускіх спевакоў, даць штуршок развіццю эстраднай песні.

**Вольга КАРЗУБ**

г.Полацк

**Мастацтва прайграе ў канкурэнцыі з шоў-бізнесам. Дзелавыя людзі і багатыя мецэнаты могуць "раскруціць" і сярэдняга спевака, зрабіўшы для яго добрыя кліпы, выпусціўшы кампакт-дыскі, забяспечыўшы рэкламу на тэлебачанні.**



# А ШОЎ-БІЗНЕСМЕНЫ "СПЯВАЛІ" ГУЧНЕЙ

Восем фестывальных дзён у Віцебску сталіся святам славянскай песні, славянскіх культур, яднання чалавечых сэрцаў.

Рэйтынг "Славянскага базару" падвысіўся пасля таго, як ён увайшоў у Міжнародную Федэрацыю Фестывальных Арганізацый (FIDOF) і ўзяў на сябе шляхетную місію — адкрыць усяму свету славянскую музычную культуру.



"Згодна Статуту FIDOF, фестывалі з'яўляюцца пасланцамі міру і дружбы праз музыку і мастацтва. "Славянскі базар" стаўся звяном у ланцугу культурных ініцыятыў, якія служаць высакароднай справе ўмацавання міру на нашай планеце", — напісаў у асабістым пасланні фестывалю прэзідэнт FIDOF Армада Марэна.

21 дзяржава свету была прадстаўлена на "Славянскім базары". У межах фестывалю адбыліся нацыянальныя дні Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Балгарыі. Свята наведалі афіцыйныя асобы многіх дзяржаваў, дыпламаты, бізнесмены. Прывітальную тэлеграму даслаў першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

Арганізатарамі "Славянскага базару" былі маскоўская фірма "Ірыда", кіеўская "Рок-акадэмія" і Віцебская Дырэкцыя фестываляў, якія аб'ядналіся ў міжнародную карпарацыю. Фестывальныя канцэрты транслявалі тэлевізійныя кампаніі Беларусі, Украіны і Расіі. Відэарэпартажы з Віцебска можна было глядзець у Польшчы, Балгарыі, Францыі, ЗША. На фестывалі былі акрэдытаваныя прадстаўнікі многіх папулярных газет і часопісаў.

Сёлета ўпершыню быў адкрыты Цэнтр нацыянальных культур. Наведнікі маглі пазнаёміцца тут з лепшымі фальклорнымі і эстраднымі выканаўцамі славянскіх краін.

У прэс-цэнтры адбываліся "рандэву з зоркамі". На пытанні журналістаў тут адказвалі Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Хрыста Паскалеў, Людміла Гурчанка, Мішэль Легран, Андрэй Місін, Уладзімір Мулявін. 24 ліпеня адбыўся святочны канцэрт, прысвечаны 25-годдзю Дзяржаўнага ансамбля "Песняры".

Шмат спрэчак на фестывалі было вакол конкурсу маладых выканаўцаў славянскай песні. Гэтым разам у ім бралі ўдзел пятнаццаць канкурсантаў з трынаццаці краін. Узначальваў Міжнароднае журы запрошаны міжнародный карпарацыяй Мішэль Легран.

Вялікі французскі музыкант Мішэль Легран, які стаміў вельмі нізкія балы ледзь не ўсім маладым выканаўцам, выклікаў шмат супрацьлеглых меркаванняў наконт сёлетняга конкурсу. З аднаго боку, не прыгожа "варагу" меркаваць аб славянскай песні, маўляў, можна было знайсці сваіх знаўцаў (летась журы ўзначальвала Надзея Бабкіна з "Рускай песні", а сёлета яе не было ў складзе міжнароднага журы). З іншага боку, шмат казалася пра крызіс славянскай культуры, пра вялікі ўплыў англамоўнай музыкі на нашую эстраду. Сам Легран выказаў меркаванне, што мы, спрабуючы пераймаць заходняе, адсталі ад яго на некалькі дзесяцігоддзяў. А вось арыгінальнай славянскай музыкі, яркіх выканаўцаў, здольных стварыць канкурэнцыю на сусветнай эстрадзе, ён, на жаль, сярод канкурсантаў не заўважыў. Напэўна, таму Гран-пры "Славянскага базару" — "Залаты певень" і прэмія ў 10 тысяч долараў па рашэнні міжнароднага журы не былі прысуджаны нікому. Першую ж прэмію (6 тысяч долараў і прыз "Залатое яйка") атрымаў спявак з Сербіі Шчэпа. Другую (па 3 тысячы долараў і прыз "Срэбнае яйка") падзялілі Аляксандр Панамароў з Украіны і Тэона з Грузіі. На жаль, сярод беларускіх выканаўцаў высокага месца не заняў ніхто. Найвышэйшага выніку дасягнула віцяблянка Аксана Пятрова, якая атрымала заахвочвальную прэмію журы і была адзначана прызам FIDOF як перспектыўная спявачка.

Яшчэ адзін спрэчны бок "Славянскага базару", які ўжо не першы год выклікае працяглыя дыскусіі, — тое, што конкурс зацямняюць канцэрты зорак эстрады. З гэтай нагоды не раз выказвалі свае крытычныя заўвагі арганізатары фестывалю, музыканты і журналісты.

Сапраўды, конкурсныя канцэрты праходзілі пры незапоўненых залах, іх паказвала толькі Беларускае тэлебачанне, і таму конкурсанты адчувалі сябе другараднымі дзейнымі асобамі. Але, калі бачыць у "Славянскім базары" толькі пошук новых імёнаў, дык фестываль наўрад ці здолее выжыць на сусветны арт-рынак. Конкурс — толькі частка вялікага свята, мэта якога — зрабіць "зорным" небасхіл славянскай музыкі. Прыцягнуць да яго ўвагу без удзелу ў фестывалі вядомых на эстрадзе імёнаў было б немагчыма.

Другая праблема, не менш надзённая — як прабіцца маладым талентам на высокую эстраду? Мастацтва прайграе ў канкурэнцыі з шоў-бізнесам. Дзелавыя людзі і багатыя мецэнаты могуць "раскруціць" і сярэдняга спевака, зрабіўшы для яго добрыя кліпы, выпусціўшы кампакт-дыскі, забяспечыўшы рэкламу на тэлебачанні. Наўрад ці некаторыя, цяпер шырока вядомыя спевакі маглі б перамагчы на конкурсе. Па-першае, ім гэта не патрэбна, а па-другое, прафесійнае журы іх не ўпадабала б. Летась у Віцебск прыязджалі "кіты" шоў-бізнеса, але іхні ўдзел у фестывалі абмяжоўваўся гутаркамі за "круглым сталом". Нездарма вядомая балгарская спявачка Ёрданка Хрыстава зычыла маладым выканаўцам перш за ўсё добрых спонсараў.

Фестываль — гэта толькі шанц паказаць сябе. На думку Алы Пугачовай, "базар" у гэтым сэнсе, трапная назва, бо на базары прапануюць тавар — талент — і шукаюць жадаючых яго набыць. На-



пэўна, гэта груба, але нашае жыццё, і тым больш эстраднае, на жаль, далёка не рафінаванае цукар.

Нягледзячы на шматлікія праблемы, фестываль у Віцебску стаўся доўгачаканым святам не толькі для гараджан, але і для многіх тэлегледачоў, якія ўбачылі яго ў феерверку зорак і новых імёнаў, адчулі атмасферу дружбы і любові, славянскага братэрства. Калі людзі яшчэ не развучыліся наладжваць святы — гэта цудоўна, гэта абуджае аптымізм, які заўсёды вылучаў славянскія народы.



**Таццяна ПАСТАРНАК**

**Фота Антона СЦЕПАНІШЧАВА**

г. Віцебск

*На здымках:*
адкрыццё фестывалю;
Тамара Гвердцытэлі (Грузія);
Надзея Бабкіна (Расія);
рэп-гурт "B.A. MASTER C" (Польшча).

## З АРХІВА ЗЛАЧЫНСТВАЎ

# АХВЯРАЎСКЛАДАННЕ

**На пятым годзе перагляду прысудаў, што былі вынесеныя нашым забітым суайчыннікам, першыя гісторыкі, нарэшце, дабраліся да тых пластоў, з якіх бярэ пачатак эпоха тэрору "зверху". У распараджэнне даследчыкаў трапілі матэрыялы архіўна-следчых спраў "контррэвалюцыянераў", датаваныя 1920 годам.**

**Раскажу толькі аб адным караценькім жыцці, перарваным у тым самым 1920 годзе. Яе, гераіню маіх нататкаў, рэабілітавалі толькі 23 сакавіка 1993 года.**

ЁН і ЯНА глядзяць, як жывыя, з фотакарткі, што выдатна захавалася за 75 гадоў. Маладыя, на ўзлёце шчасця. Загубленыя, як бязважкія пясчынкі ў завалах архіўна-следчых спраў ЧК...

Ганна Маркава, дачка запаснога кананіра, нарадзілася 28 жніўня 1898 года ў вёсцы Валынцава Раманаўскай воласці Горацкага павета Магілёўскай губерні. Пасля пасляховага заканчэння гімназіі ў Санкт-Пецярбургу ў сувязі з гаротным становішчам бацькоў вымушана была самастойна зарабляць сабе на жыццё.

У 1916 годзе Ганна выйшла замуж за Сяргея Калмакова, які служыў у Санкт-Пецярбургу памочнікам обер-сакратара III Дэпартамента Сената. Муж учарашняй гімназісткі пасля мабілізацыі падчас першай сусветнай вайны працаваў чыноўнікам інтэнданцтва.

У 1918 годзе Сяргей Калмакоў з арміі дэмабілізаваўся і, падхоплены віхурай рэвалюцыі, апынуўся з жонкай у Казані. На гэты час у сям'і было ўжо двое дзяцей: двухгадовае дзіця і немаўля. У горадзе гаспадарылі чырвоныя, і глава сям'і зарабляў на хлеб рахункаводам у гарадской управе. Але ў хуткім часе Казань адбілі белыя. Ці трэба казаць, што і па адукацыі, і па выхаванні Сяргей Аляксеевіч, які даволі пабачыў хамства рэвалюцыйных "нізоў", быў непараўнальна бліжэй да афіцэрства, чым да камісараў! Ён становіцца сакратаром камісіі Ваеннага кантролю ў арміі Калчака.

Калі чэхаславацкі корпус адкрыў фронт і выйшаў з вайны, белыя пачалі адступленне, і разам з Ваенным кантролем Калмакоў эвакуюецца ў Томск.

Ганна з двума дзецьмі не здолела ехаць далей і засталася ў Томску. Яе муж пайшоў разам з Калчаком далей на ўсход, але ў дарозе захварэў і вярнуўся да сям'і. Ён стаў весці жыццё затворніка, хаваючыся ў жонкі і свайго брата.

Дваццацідвухгадовай жанчыне з двума маленькімі дзецьмі на руках і мужам на ўтрыманні трэба было працаваць. Ганне пашчасціла: па рэкамендацыі знаёмага яна ўладкавалася на службу ў... ЧК. Безумоўна, не рэвалюцыйны парыў, а горкая неабходнасць прымусіла яе апынуцца на ганку гэтай злавеснай установы! Так жонка былога афіцэра стала рэгістратаркай у канцылярыі агульнага аддзела Томскай "надзвычайкі".

Ці то сама Ганна была неасцярожнай у размовах, ці то здарылася нешта іншае, але патаемнае стала яўным. У 1920 годзе пачалося следства. Арыштаванай прад'явілі абвінавачанне ў некалькіх "злачынствах". Пасля доўгага маўчання яна прызналася ў тым, што хавала мужа. Але з абвінавачаннем у прыналежнасці да белагвардзейскай арганізацыі выйшла неспадзяванка. Жанчына катэгарычна яго адмаўляла, і, як ні біліся "рыцары рэвалюцыі", ніводнага доказу віны Калмаковай яны не здабылі. Аднак гэта нікольні не збянтэжыла чэкістаў. Высвятляецца,што ўладкаваў Калмакову ў ЧК не проста грамадзянін Крывашэін, а былы белы афіцэр Крывашэін, і не толькі былы афіцэр, але і член тайнай белагвардзейскай арганізацыі.

Але, можа, так і было? Усё ж такі палымнела Грамадзянская вайна, пра якую мы ўсе ведаем з кніг і кінастужак, са злыднямі-белякамі і чырвонымі героямі.

Звернемся да следчых дакументаў. І высвятляецца, што, як ні "калолі" няшчасную жанчыну, што сядзела "пад расстрэлам", яе былыя супрацоўнікі, усё, што яны здолелі з яе выцягнуць, —гэта прызнанне, што яе "спрабаваў выкарыстаць у гэтым накірунку Крывашэін, які абяцаў, што ёй гэта залічыцца з боку белагвардзейскіх арганізацый". Але "спрабаваў" яшчэ не значыць "выкарыстаў".

Такім чынам, доказаў не было аніякіх. Затое быў данос ці даносы ад невядомай асобы, імя якой засталося нераскрытым. "Сексот" сігналізаваў, што Калмакова дае белагвардзейцам звесткі пра ЧК. Ці азначала гэта, што яна расказвала мужу пра сваю будзённую працу? Муж Ганны, які міжволі адыграў у яе лёсе такую фатальную ролю, напэўна, жорстка расплаціўся за сваю неадольную цягу да хатняй утульнасці. Ад яго застаўся толькі верш "Мальба", які запісаны алоўкам на аркушы паперы і адрасаваны жонцы. Вось толькі чатыры радкі з яго:

Прости меня! Быть может,
очень скоро
Я от тебя уйду без поцелуя рук,
Весны познаю я тяжёлые
укоры,
"Она" возьмёт меня в свой
жадный тесный круг.

Датаваны гэтыя радкі 25 сакавіка 1920 года. Калі пад словам "яна" ён разумеў смерць, дык наўрад ці памыліўся.

Лёс Ганны Калмаковай вырашыў нейкі ўпаўнаважаны па палітычных партыях. Гэты ўладальнік неразборлівага подпісу на ўсялякі выпадак не ўказваў свайго прозвішча, толькі напісаў: "Прапаную, зыходзячы з рэвалюцыйнай мэтазгоднасці, выкарыстаць для Калмаковай Г.І. вышэйшую меру сацыяльнай абароны".

Захавалася і выпіска з пратакола N 27 пасяджэння Томскай павятовай надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і злачынствамі па пасадзе ад 24 чэрвеня 1920 года. У ёй гаворыцца, што Калмакова, якая знаходзіцца ў турме, абвінавачваецца ў прыналежнасці да белагвардзейскай арганізацыі Гаўрыловіча. Дададзім, што ніякага Гаўрыловіча яна не ведала. (Аднак, гэты чалавек, дарэчы, ураджэнец г. Магілёва, рэальна існаваў. Зараз ён таксама рэабілітаваны.) Чэкісты пастанавілі: "Лічыць абвінавачанне, што прад'яўлена Калмаковай, даказаным, выкарыстаць для яе вышэйшую меру пакарання — расстрэл".

Як шмат "ворагаў" у нас было!..

Да гэтага часу супрацоўнікі Дзяржбяспекі называюць сябе чэкістамі, як бы аддзяляючы ЧК ад яе злачынных пераемнікаў. Але факты немагчыма змяніць: менавіта чэкісты далі ўзор фальсіфікацыі спраў, рэпрэсій над безабароннымі людзьмі. Менавіта яны паклалі пачатак д'ябальскай эстафеце даўжынёй у семдзесят гадоў.

... Гэтыя далёкія і непаўторныя, ледзь бачныя сёння праз дымку дзесяцігоддзяў дваццатыя гады! Заставайцеся непаўторнымі, не паўтарайцеся ніколі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

Ганна Іванаўна і Сяргей Аляксеевіч Калмаковы. Такімі яны былі ў 1919 г.

# ДЗВЕ ЭМІЛІІ

**Каваным ботам прайшлі па іх лёсах сталінізм і фашызм. Не дзіўна, што сённяшнія нашы праблемы здаюцца ім надуманымі і несур'ёзнымі.**

"Здарова, цёзка!" — "Здарова!" — чуваць з суседняга двара. Такім прывітаннем яны сустракаюцца амаль паўстагоддзя. Старыя жанчыны, якія носяць аднолькавае гучнае і ў наш час рэдкае імя — Эмілія, — зноў завялі размову. Лёс дзвюх суседак з невялікай вёсачкі Кавальцы, што на Міншчыне, — цяжкі лёс працаўніц, якія жылі, кахалі, пакутавалі і выстаялі супраць усіх нягод, на якія іх жыццё было больш чым багатае...

Эміліі Адамаўне Ляўковіч — 89, суседка, Эмілія Іосіфаўна Рудкоўская — на дзесяць гадоў маладзейшая. Пражыта жыццё, выраслі ўнукі, бегаюць па двары праўнукі. А яшчэ нядаўна, здаецца, хадзілі на вячоркі. Часта, абмяркоўваючы надзённыя праблемы, бабулі ўспамінаюць маладосць. З сумам, з болем ад старых незагоеных душэўных ран. А расказваюць аб усім лёгка, проста, нібы не пра сябе гавораць, а пра некага іншага. Але калі паглядзіш на фотаздымкі тых далёкіх часоў і ўявіш такіх прыгожых маладых жанчын у пакутах, становіцца жахліва. І ў той жа час уздыхаеш з палёгкай, што ўсё гэта ў мінулым, што пераЖыць такое, дасць Бог, не давядзецца больш нікому.

У кожнай жанчыны свой лёс, свае ўспаміны. Ды адно іх аб'ядноўвае: абедзве — удовы з маладых гадоў, самі, без мужоў, выхоўвалі дзяцей, ні адна не выйшла замуж другі раз.

Эмілія Адамаўна ў дзевяць гадоў засталася сіратою — без маці. На плечы дзяўчынкі леглі ўсе клопаты па гаспадарцы і аб сям'і: бацьку і малодшых брацікау і сястрычцы. Ранняя дарослась выхавала ў дзяўчыне разважлівасць і суровасць: першая прыгажуня на вёсцы адштурхоўвала ўсіх, хто спрабаваў заляцацца ці, нават, сватацца. Пакуль у 28 гадоў не сустрэла таго, адзінага, з якім марыла пражыць усё жыццё. Шчасліва жылі з мужам у новай хаце, гадавалі двух сыноў. Ды шчасце было кароткім. У ліпені 37-га гаспадара забралі. За тое, што град у ягонай брыгадзе пабіў грэчку...

І пачаўся страшны сон, кашмар. Паездкі ў Мінск, у турму. Коннікі ў міліцэйскай форме, якія, махаючы шаблямі, адганялі натоўп такіх жа, як яна, пакутніц. Ноччу выганялі з вакзала, і даводзілася начаваць у прыбіральні на падваконніку, а часам і на падлозе. Прыязджала дадому, а там чакалі галодныя дзеці і недаверлівыя, спалоханыя позіркі аднавяскоўцаў.

... Калі запускаліся каровы на цяленне, купляла малако ў суседзяў, каб здаць у калгас патрэбныя літры. А сэрца аблівалася крывёю, калі глядзела, як дзеці (малодшаму было тады тры гады) ядуць посную кашу... Жонка ворага народа — гэтае кляймо не змывалася доўгія гады. Але яна не верыла. І амаль усё жыццё чакала, што адчыняцца дзверы і на парозе з'явіцца муж, прыгожы, вясёлы, падкіне ўгару сыноў, прытуліць яе... Чакала, хоць перадачы перасталі прымаць яшчэ ў снежні 37-га.

Эмілія Іосіфаўна ў гэтым жа 37-м толькі выйшла замуж у суседнюю вёску. Нарадзіла дзвюх дачок, працавала з мужам у калгасе. Пачалася вайна. Мужа ў армію забраць не паспелі: немцы вельмі хутка наступалі. Ноччу 42-га ў хату Рудкоўскіх пастукаў паранены партызан. Перамогшы сумненні, боязь за дачок, яны адчынілі. А назаўтра ў вёску прыехаў карны атрад. Забралі і партызана, і мужа, і іншых мужчын. А яна з дзецьмі схавалася ў каноплях. Мужчын расстралялі, а пасля спалілі ў хляве. Назаўтра на пажарышчы хадзілі жанчыны, шукаючы сваіх мужоў, братоў, сыноў. Эмілія Іосіфаўна знайшла мужа па рэштках вопраткі, загарнула іх у прасціну і панесла на руках. Яго, яшчэ пазаўчора такога дужага, які нядаўна насіў на руках яе... Пахавала мужа і вярнулася да бацькоў.

Сустрэліся дзве маладыя ўдавы, паплакалі, але гараваць не было часу. Трэба было працаваць, карміць малых...

Скончылася вайна, з фронту вярнуліся мужчыны, а суседкам не было палёгкі. Працавалі за дваіх. Эмілія Адамаўна на палявых работах, а сяброўка — на кароўніку. Адна рвала лён, жала, зімой рукі мёрзлі на ломе, калі адбівала зямлю з капцоў. Другая тры разы на дзень уручную выдойвала паўсотні кароў.

Ішоў час, жыць станавілася лягчэй, павырасталі дзеці, павыходзілі замуж, пажаніліся, паехалі ў горад. У 1969-м мужа Эміліі Адамаўны рэабілітавалі.

Яны і зараз сустракаюцца кожны дзень. Але зімой Эмілія Іосіфаўна едзе ў Мінск да дачкі, і тады суседка сумуе. Ды прыходзіць машына, з якой выходзіць жыццярадасная бабка Аміля: "Здарова, цёзка!"

У іх спакойныя, маршчыністыя твары і ясныя ад нявыплаканых слёз вочы. Нават не верыцца, што яны столькі перажылі. Мабыць, таму нашыя праблемы здаюцца ім несапраўднымі, надуманымі. "Працаваць трэба больш — і ўсё добра будзе", — часта чую ад іх такія словы. І часам здаецца, што галасам іхнім гаворыць сама Гісторыя.

**Алеся КЛІМОВІЧ**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Серада, 10 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 "Дзевяты вал". Дак. фільм.
9.05 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
10.05 "Мы спяваем джаз". Музычная праграма з удзелам беларускіх і польскіх выканаўцаў.
10.50 "Другая спроба Віктара Крохіна". Маст. фільм.
12.25 "Сказ пра рысь". Дак. фільм.
13.15 "Балет Ігара Маісеева". Фільм-канцэрт.
14.50 "Д'Артаньян і тры мушкецёры". Маст. фільм. 2-я серыя.
16.25 Праграма перадач.
16.30 Відзьма-нявідзьма.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
18.40 Абласныя навіны (Гомель).
18.25 Навіны Бібі-сі.
19.00 "Пяць зорак". Тэлегульня.
20.00 "Амкадор", "Амель" і іншыя піянеры прыватызацыі.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 "Маё каханне, мой смутак".
22.35 Пад купалам Сусвету.
22.45 НІКа.
23.00 Пяць хвілін на жарты.
23.05 Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
7.00, 10.00 15.00, 17.00, 20.00, 23.15 Навіны.
7.15 Працяг праграмы "Раніца".
8.00 Расійскі дайджэст.
8.15 "Сястрычкі-прывычкі". Мультфільм.
8.30 "Дзікая ружа".
8.55 Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
9.45 Дзелавы веснік.
10.20 Баскетбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Перадача з Канады.
15.25 "Вайна гобатаў".
15.50 Комікс-бум.
16.05 Адказы.
16.40 Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25 Свет сёння.
17.40 Тэхнадром.
17.50, 20.35 Надвор'е.
18.00 Гадзіна пік.
18.25 "Дзікая ружа".
18.55 Рыцар камедыі. Эраст Гарын.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Маналог.
21.00 Фільмы Ф. Феліні. "А карабель плыве" (Італія).
23.25 Бумеранг.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Добрай раніцы, Еўропа.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Ранішні канцэрт.
8.45 "Санта-Барбара".
9.35 "Атамныя тайны". Відэафільм.
9.50 Тэатральны раз'езд. Пра Арыстэю, Штайна і саміх сябе.
10.35 Тэлегазета.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Музычны фестываль "Белыя ночы". 1-я частка.
15.50 Там-там навіны.
16.05 Далёкі Усход.
16.50 М-трэст.
17.05 Будні.
17.40 Свята кожны дзень.
17.55 Футбол. "Дынама" (Масква) — "КамАЗ". У перапынку — Весткі.
19.55 Падрабязнасці.
20.05 "Санта-Барбара".
20.55 "Ніхто не забыты".
21.05 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
22.20 Аўтаімгненне.
22.30 Спартыўная карусель.
22.35 Экран крымінальных паведамленняў.
22.45 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 Чароўная лінія.
12.25 "Нямецкая хваля".
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны".
14.20 "Прыгоды капітана Урунгеля".
14.45 "Бенефіс сантэхніка Смірнова". Маст. фільм.
16.00 "Маленькая вядзьмарка". Мультфільм.
16.25 Урок нямецкай мовы.
16.40 Еўрапейскі калейдаскоп.
17.10 "Бусляня". Тэлефільм для дзяцей.
17.50 "Гарадскі раманс". Маст. фільм.
18.15 "Адчыненае акно". Мультфільм.
18.55 "Фру-89". Мультфільм для дарослых.
19.05 "Каміла, ці Нераскрытыя тайны".
19.55 "Аднойчы восенню". Маст. фільм.
20.45 Тэлеслужба бяспекі.
20.55 "Вулічныя музыкі". Тэлефільм.
21.10 "Падсякай". Праграма для рыбаловаў.
21.25 Тэлемагазін.
21.30 Будні.
22.00 Спорт.
22.15 Ваш стыль.
22.20 Музычны момант.
22.35-23.25 Футбол. "Зеніт" (СПБ) — "Сокал" (Саратаў).

### 8-ы канал

18.00 Фільм для дзяцей "Карусель".
18.25 Тэлежурнал "Нямецкая хваля".
18.40 Мультсерыял "Вальтрон".
19.10 Паліцэйскі серыял "Хіл Стрыт Блюз" : "Бумеранг".
19.55 Студыя "Рэкорд". Мультфільм "Меч у камені".
20.30 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.20 Хатні доктар.
21.45 Дэтэктыў... Баявік... Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## Чацвер, 11 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 "Незнаёмы і дзівосны свет". Дак. фільм.
9.05 "Маё каханне, мой смутак".
10.05 "Змеялоў". Маст. фільм.
11.40 "Бярозавыя галасы". Фільм-канцэрт.
12.40 Фільм — дзецям. "Золушка".
14.00 "Востраў капітанаў". Мультфільм.
14.30 "Д'Артаньян і тры мушкецёры". 3-я серыя.
15.40 "Сцежкамі запаведнымі", "Даліна нарзанаў". Дак. фільмы.
16.30 "Сіняя Світа". Тэлеспектакль паводле казак Алены Туравай.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 Крымінальная хроніка.
18.05 Зачытайце маё пісьмо...
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Футбол. Кубак кубкаў. "Фандок" (Бабруйск) — "Цірана" (Албанія). У перапынку — Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 "Маё каханне, мой смутак".
22.35 Кантакт.
22.40 Пад купалам Сусвету.
22.50 НІКа.
23.05 Пяць хвілін на жарты.
23.10 Маладзёжная рэдакцыя Украінскага тэлебачання "Гарт" у гасцях у "Крока".
0.40 Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.10 Навіны.
7.15 Працяг праграмы "Раніца".
8.00 Агляд рынку нерухомасці.
8.15 "Казка аб страчаным часе". Мультфільм.
8.40 "Дзікая ружа".
9.05 "Жыццё заапаркаў".
9.45 Прадпрымальнік.
10.20 Баскетбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. 1/4 фіналу.
15.25 "Вайна гобатаў".
15.50 Мульцітролія.
16.05 ...Да 16 і старэйшым.
16.40 Планета.
17.25 Дакументы і лёсы.
17.40 Загадка СБ.
17.50, 20.30 Надвор'е.
18.00 Гадзіна пік.
18.25 "Дзікая ружа".
18.55 Лідэр.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква—Крэмль.
21.30 "Дарога ў Парадыз". Маст. фільм.
23.20 За цыганскай зоркай...

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Віртуозы 2000 года.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Паехалі.
8.40 "Санта-Барбара".
9.30 Чароўны куфэрачак.
9.40 "Дзед і журавель". Лялечны спектакль.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20 Музычны фестываль "Белыя ночы". 2-я частка.
15.50 Там-там навіны.
16.05 Тэлегазета.
16.10 Новая лінія.
16.55 Свята кожны дзень.
17.05 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.
17.55 У свеце аўта-і мотаспорту.
18.25 Свая гульня.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.25 Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.30 Рэк-тайм.
21.00 "Спартак" (Масква) — "Лакаматыў" (Ніжні Ноўгарад). 1-ы тайм.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Спартыўная карусель.
22.35 "Спартак" (Масква) — "Лакаматыў" (Ніжні Ноўгарад). 2-гі тайм.
23.25 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 Чароўная лінія.
12.25 "Нямецкая хваля".
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 "Ленінградскі балет". Фільм-канцэрт.
14.15 "Прыгоды капітана Урунгеля".
14.25 Тэлемагазін.
14.45 "Два білеты на дзённы сеанс". Маст. фільм.
16.25 "Царэўна-жаба". Тэлеспектакль для дзяцей.
17.30 Парады садаводам.
17.40 Рэформа і ўлада.
18.10 "Жыла-была пчолка". Мультфільм.
18.55 "Карціна", "Exaў Ваня". Мультфільмы для дарослых.
19.05 Камедыя. "Мелодыі Вярыйскага квартала".
20.45 Тэлеслужба бяспекі.
20.55 "Адэон". Маст. фільм.
21.25 Тэлемагазін.
21.30 Па ўсёй Расіі.
22.00 Спорт.
22.15 Ваш стыль.
22.20—23.20 Вячэрні звон.

### 8-ы канал

18.00 Фільм для дзяцей "Карусель".
18.25 Мультсерыял "Вальтрон".
18.50 Тэлесерыял "Лабірынт правасуддзя" : "Боскі вобраз".
19.40 Студыя "Рэкорд". Фільм "Пітэр-пен"
20.25 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.15 БАНТ. Рэпартаж.
21.20 Прэзентацыя міжнароднага Хрысціянскага фестывалю еўрапейскай музыкі і танца.
21.55 На экране кінакамедыя. Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## Пятніца, 12 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Эканамікст.
8.20 Пад купалам Сусвету.
8.30 Надвор'е.
8.40 Пяць хвілін на жарты.
8.45 "Марай кахання, марай цудоўнай..." Фільм-канцэрт.
9.15 "Маё каханне, мой смутак".
10.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок. "Пяць зорак". Тэлегульня.
11.15 "Прыніжаныя і зняважаныя". Маст. фільм.
12.55 "Танцуе Людміла Семеняка".
13.45 "Бюро знаходак". Мультфільм.
14.20 "Сярод скал". Дак. фільм.
14.35 "Адысея Аляксандра Вярцінскага". Тэлефільм.
16.30 "Папараць-кветка". Шоу-віктарына для старшакласнікаў.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 "Тайна краіны Суніцы". Мультфільм.
18.00 Эканамікст.
18.10 Абласныя навіны (Магілёў).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Бізнес-рынг. Развіццё банкаўскай справы ў Беларусі.
19.35 "Яму было 33..." Вечарына памяці кампазітара Аляксандра Арэхава.
20.20 Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пяць хвілін на жарты.
21.40 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
21.45 "Вочы чорныя". Маст. фільм.
23.50 НІКа.
0.05 Пад купалам Сусвету.
0.15 Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны.
7.15 Працяг праграмы "Раніца".
8.00 Новы старт.
8.15 Сарока.
8.40 "Дзікая ружа".
9.05 "Танзіля". Дак. фільм.
9.15 Агарод круглы год.
9.45 Бізнес-клас.
10.20 Баскетбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. 1/4 фіналу.
15.25 У гасцях у казкі. "Пра Чырвоную шапачку". 1-я серыя.
16.50 Азбука ўласніка.
17.25 Чалавек і закон.
17.55, 20.35 Надвор'е.
18.05 Чалавек тыдня.
18.25 "Дзікая ружа".
18.50 Поле цудаў.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 С. Сіньорэ, І. Мантан, С. Сандрэлі ў дэтэктыве "Паліцыя Пітон-357".
23.10 Музагляд.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Музыка ўсіх пакаленняў.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Паехалі.
8.40 "Санта-Барбара".
9.30 Чароўны куфэрачак.
9.40 Тэлегазета.
9.45 У свеце жывёл.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Студыя "Рост". Кенгуру.
15.50 Там-там навіны.
16.05 Новая лінія.
16.50 Дысней па пятніцах. "Зноў малады". 1-я серыя.
17.45 Свята кожны дзень.
17.55 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.25 Маскі-шоу.
20.55 Кліп-антракт. Т. Буланава.
21.05 "К-2" прадстаўляе: "Ню".
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Спартыўная карусель.
22.35 Экран крымінальных паведамленняў.
22.45 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 Чароўная лінія.
12.25 "Нямецкая хваля".
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 "Ластаўка з вострава Туманны". Навукова-папулярны фільм.
13.55 Урок нямецкай мовы.
14.10 Тэлемагазін.
14.15 "Прыгоды капітана Урунгеля".
14.45 Ура! Камедыя. "Мелодыі Вярыйскага квартала".
16.25 "Цімоня". Фільм-канцэрт.
17.00 "Пабочныя дзеці Антона Веберна". Тэлефільм (Францыя). 1-я частка.
18.05 "Адэса ўсміхаецца". Тэлефільм для дзяцей.
18.55 "Прапала сумленне". Мультфільм для дарослых.
19.15 "Трактарысты-2". Маст. фільм.
20.45 Тэлеслужба бяспекі.
20.55 "Прыгажуня і Казанова".
21.25 Тэлемагазін.
21.30 Будні.
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.15 Ваш стыль.
22.20—23.50 Анталогія зарубежнага кіно. "Дзіця ў лістоце".

### 8-ы канал

18.00 Фільм для дзяцей "Карусель".
18.25 Мультсерыял "Вальтрон".
18.50 Сямейны серыял "Швейцарскія Рабінзоны".
19.15 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультфільм "Пітэр Пэн".
20.25 Музычная праграма.
21.25 БАНТ. Рэпартаж.
21.40 Класіка кінематографа. Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## Субота, 13 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 "Вочы чорныя". Маст. фільм.
10.40 Здароўе. Тэлечасопіс.
11.15 Паказвае Магілёў.
11.45 20 мінут рэдактара.
12.05 Сталіца. Тэлечасопіс.
12.25 Хакей. Кубак "Крыніцы". "Палімір" (Наваполацк) — "Нёман" (Гродна).
13.45 Да 70-годдзя кінастудыі "Беларусьфільм". Фільмы рэжысёра А. Алая. "Марынеска". Дак. фільм.
14.50 Фільм—дзецям. "Пра ката". Музычная казка.
15.55 Угледзецца ў твар... Сур'ёзны чалавек Вячаслаў Сцепанец.
16.25 Метраном. Ансамблю "Харошкі" — 20 год.
17.20 "Чарапашкі ніндзя".
17.45 Прафесійны бокс. Турнір. "Суперчэмпіён Беларусі".
18.45 "Кола лёсу" ў Марселі.
19.25 "Нов і К"-топ-10.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 "Зоркі" на экране. "Удачлівая". Маст. фільм.
23.05 "Каскад".
23.20 Навіны кіна-відэа-аўдыё.

### Канал "Астанкіна"

6.30 Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.15 Спорт-шанц.
7.45 Слова пастара. Мітрапаліт Кірыл.
8.00 Покліч джунгляў.
8.30 Тэлерадыёкампанія "Мір".
10.00 Ранішняя пошта.
10.30 Медыцына для цябе.
11.00 Навіны культуры.
11.10 Смак.
11.25 Фільмы нашай памяці. "Закаханыя".
13.00 Звонкія гуслі Расіі. Сустрэча з Верай Гарадоўскай.
13.30 Лабірынт. Аб Міжнародным фестывалі імя А. Д. Сахарава ў Афінах.
14.00, 23.10 Навіны.
14.20 Праграма "Х".
14.30 "Кэтвізл". Тэлесерыял для дзяцей (Англія).
15.05 Тайны Старой плошчы.
15.35 "Жыццё заапаркаў".
16.20 Без паўзы.
16.50 Чалавек і закон.
17.00 Шчаслівы выпадак.
17.50 Да і пасля.
18.40 Зоркі Расіі на Патрыяршых Прудах.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс.
20.35, 0.15 Надвор'е.
20.45 Маст. фільм "Пасланне мерцвяка" (ЗША).
22.40 Баскетбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Мульці-пульці. "Воўка ў трыдзевятым царстве".
7.45 "Прадоўжанка".
8.15 Пілігрым.
9.00 Смачна, вельмі смачна.
9.10 "Славенія. Востраў жаданняў". Дак. фільм.
9.40 "Партрэт і лік". Мастак Алена Фігурына.
10.10 Тэлеэрудыт.
10.15 "Як жыць будзем?"
11.00 "Іван ды Мар'я". Маст. фільм.
12.25 Здарова жывеш.
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 Казырная дама.
13.50 "Таганскае танга". Дак. фільм.
14.50 Залатая шпора.
15.20 Футбол без граніц.
16.15 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.
17.15 Мультфільм "Уэстворд Хо" (ЗША).
18.15 Вуснамі дзіцяці.
18.45 Свята кожны дзень.
19.25 "Адэлаіда". Маст. фільм.
20.55 Тэлеэрудыт.
21.05 Зусім сакрэтна.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Спартыўная карусель.
22.35 Праграма "А".
23.35 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.

### Санкт-Пецярбург

8.45 Чароўная лінія.
9.00 "Дзіця ў лістоце". Маст. фільм (ЗША).
10.30 "Брэменскія музыкі". Мульфільм.
11.00 "Круг". Маст. фільм.
12.35 "Жыццё і прыгоды чатырох сяброў". Фільм 1-ы "Кот Семафор".
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 Мая музыка.
14.00 "Брам". Дак. фільм (Нідэрланды).
15.15 Аўтапілот.
15.30 "Марыяна першая". Мультфільм.
16.00 "Транссібірскі экспрэс". Маст. фільм.
17.30 "Рака". Тэлефільм.
18.05 "Віні Пух і дзень клопатаў". Мультфільм.
18.30, 21.45 Інформ ТБ.
18.55 Экспрэс-кіно.
19.15 "Страсці". Тэлесерыял (Італія).
20.50 "Настаўніку прысвячаецца". Памяці Ю. Курганава.
21.20 "Два балбатуны". Маст. фільм.
22.05 Ваш стыль.
22.10 "Цені знікаюць апоўдні". Маст. фільм. 3-я серыя.
23.20—23.50 Адам і Ева +.

### 8-ы канал

15.00 Маст. фільм "Непераможныя ногі кун-фу".
16.30 Прапаведнік Кенет Коупленд.
17.00 Мультсерыял "Трансформеры".
17.45 Тэлежурнал "Нямецкая хроніка".
17.50 Прыгодніцкі серыял "Заліў Небяспечны": "Рашаючы прыліў".
18.45 "Трафальгарскае ўра" з цыкла "Гістарычныя баі".
19.45 Тэлесерыял "Кветка страсці".
21.20 "Як справы, дружа?"
21.50 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## Нядзеля, 14 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Пяць хвілін на жарты.
8.25 Слова да чалавека.
8.55 Справы вайсковыя.
9.40 "Удачлівая". Маст. фільм.
11.00 Беларускі тур. Падарожжа, сустрэчы, адпачынак.
11.20 "Чарапашкі ніндзя".
11.45 Белыя і чорныя. Тэлевізійны шашачны клуб.
12.15 Нядзельная пропаведзь ксяндза Уладзіслава Завальнюка.
12.25 "Праспект". Інфармацыйна-аналітычная праграма.
12.55 АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі.
13.10 MTV. Лепшыя хіты.
13.45 Нядзельнае тэлекафэ "Мая мама".
14.15 Вяскоўцы. Успамінаюць ветэраны. Круглянскі раён.
14.45 Кампазітары Беларусі. А. Літвіноўскі. Кантата "Вяселле".
15.15 "Кур'ер". Маст. фільм.
16.40 "Прыгоды Мюнхаузена", "Цудоўны востраў". Мульфільмы.
17.00 "Гінес-шоу" (ЗША — Вялікабрытанія).
17.30 Дзелавы веснік.
17.45 "Чарапашкі ніндзя".
18.10 Партрэт у інтэр'еры. Дырэктар будаўнічай фірмы "Славена" В. М. Шульгоўскі.
19.10 Тэлекрама.
19.20 Запрашаем на вячоркі. "Каравайная ноч" у вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна.
20.00 Панарама.
20.35 Пяць хвілін на жарты.
20.40 Калыханка.
21.00 Пад купалам Сусвету.
21.10 "Сінема" прадстаўляе:
21.15 "Вопыты кахання". Маст. фільм (Італія).
23.10 Гонкі для Беларусі (формула-юніёр).

### Канал "Астанкіна"

7.15 Алімпійская раніца.
7.50 Тыраж "Спортлато".
8.00 Марафон-15.
8.30 Раным-рана.
9.00 Палігон.
9.30 Пакуль усе дома.
10.00 Ранішняя зорка.
10.50 Пад знакам "пі".
11.35 Вагон 03.
12.10 "Пасля Сталыпіна". Навукова-папулярны фільм. Частка 1-я.
13.05 Шпаргалка.
13.10 "Падводная адысея каманды Кусто".
14.00, 17.15, 22.55 Навіны.
14.20 Дыялог у прамым эфіры.
15.00 Жывое дрэва рамёстваў.
15.05 Акно ў Еўропу. Вядучы Д. Кісялёў.
15.35 Вакзал мары. Ю. Башмет.
16.20 Клуб падарожнікаў.
17.25 Тэлелоцыя.
17.40 Мультфільмы "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды".
18.35 Бамонд.
18.55 Надвор'е.
19.05 "Гаспары". Маст. фільм.
21.00 Нядзеля.
21.50 Спартыўны уік-энд.
22.10 Баскетбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Паўфінал.
23.40 Каханне з першага погляду.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 "Сеньёра Вікторыя". Дак. фільм.
7.55 Студыя "Рост".
8.25 "Снеданне для чэмпіёнаў".
8.55 Майстры. Міхаіл Глузскі.
9.50 Кліп-антракт. Ю. Кузняцоў.
9.55 Аты-баты...
10.25 Суайчыннікі.
10.55 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.
11.55 Размова на фоне гісторыі.
12.35 Кліп-антракт. С. Лазарава.
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 "Не высечы..."
13.35 Рэтра-шлягер.
14.05 Белая варона.
14.50 Чэмпіянат свету па аўтагонках "Формула-1".
17.00 "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
18.00 Свята кожны дзень.
18.10 Фільм-прэм'ер.
18.25 У Ксюшы.
19.25 "Праз дзень". Маст. фільм.
21.40 Каробка перадач.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Спартыўная карусель.
22.35 Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы.

### Санкт-Пецярбург

9.00 "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
9.30 "Клемянціна". Мультфільм.
10.30 Экспрэс-кіно.
10.45 "Віні Пух ідзе ў госці". Мультфільм.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.35 "Жыццё і прыгоды чатырох сяброў". Фільм 2-гі "Незнаёмцы".
13.05 "Тэлескопы". Навукова-папулярны фільм.
13.20 "В. Сурыкаў. Пакарэнне Сібіры Ермаком". Тэлефільм.
13.30 Ад першай асобы.
14.15 "Провады Белых начэй". Маст. фільм.
15.40 "Іван Грозны". Балет на музыку С. Пракоф'ева ў пастаноўцы Вялікага тэатра.
17.40 Зебра. "Джынсавы рок".
18.30 Інформ ТБ.
18.55 "Васковыя персоны". Фільм-манаграфія.
19.50 "Салярыс". Маст. фільм.
22.35 Ваш стыль.
22.40-23.00 Ралі-спрынт.

### 8-ы канал

15.00 Мультсерыял "Трансформеры".
16.10 Ураган "Каміла" з серыі "Хроніка катастроф".
16.45 Камедыйнае шоу "Скрытая камера".
17.10 Мультфільм "Канёк-гарбунок".
18.25 Тэлесерыял "Кветка страсці".
20.50 Спорт-сакрэт.
21.15 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.
22.40 Foxy music.

## ЗАМЕСТ КРОПКІ




У яе прыгожыя грудзі, сама яна невысокая, з нейкай запаволенай прывабнай пластыкай. Вішнёва-чырвоныя прыцемкі ахутваюць яе аголенае цела; крэсла ў срэбранай пелярыне — нібы ўмоўны эратычны партнёр. Актрыса рухаецца пад музыку ў сладастрасным танцы.

Святло! "Кліентура" за сталамі, адсунуўшы пітво і ежу, тупа жартуе. Дамачкі, якія яўна нервуюцца, віскліва падхіхікваюць...

Зоя Падрэзава. Сорак гадоў. Прафесійная балерына Масканцэрта. За плячыма — студыя эстраднага мастацтва, праца ў балетнай групе Алега Папова ў Вялікім маскоўскім цырку, потым — ва Уладзіміра Шубарына. А затым — сама, сама... Яна выконвае чатыры эратычныя танцы. З іх два — "топлес" (калі агаляюцца толькі грудзі) і два "стрып". Па "просьбе працоўных" усе танцы могуць стацца стрыптызам.

— Здзіўляешся? Ад класікі, ад народных танцаў і раптам -- да гэтай парнаграфіі? Прымусіла жыццё, цэны. Наогул, пачалося ўсё некалькі гадоў таму ў Германіі. Немцы паглядзелі маю праграму. "Гэтак не пойдзе, — кажуць, — гэта не эротыка. Альбо распранайся, альбо едзь дадому". Адступаць? Спрабавала. Тры дні істэрыкі. Потым прызвычаілася. Дома і не думала працягваць. Але зноў была пастаўлена перад дылемай: альбо грошы, альбо галеча.

(Яна добра выглядае і на сцэнічнай пляцоўцы, і ў жыцці. Рэзка вылучаецца прафесіяналізмам на фоне артыстычнай рэстараннай браціі.)

— Зараз на жыццё хапае. Але ці падлічваў хто, колькі ідзе на касцюмы, на фанаграмы з фірмовых студый ці на заняткі ў балетмайстраў? Я ж маю справы толькі з прафесіяналамі. Танцы мне ставілі Міша Піліпюк (кіраўнік вар'етэ "Арлекін"), Грыша Захараў (працаваў з Алай Пугачовай у "Рэцытале"). Таму і запрашаюць мяне ў лепшыя рэстараны. Таму і танцавала ў Германіі, Румыніі, Балгарыі і Японіі. Аднойчы працавала ў міжнароднай праграме: чэшкі, аргенцінкі, немкі і адна негрыцянка. Мне ўдалося пратрымацца там тры выступленні. А пасля прапанавалі яшчэ тры месяцы працаваць. Не, паехала. Стамілася. Хоць "там" усё было бліжэй да мастацтва. Ім патрэбна была мая харэаграфія.

(Яна ў выдатнай форме, хаця і аформіла нядаўна творчую пенсію. На сцэне выглядае на дваццаць пяць, не больш), і толькі рухі, прафесійна напрацаваныя, гранічна дакладныя, сведчаць, што пражыла яна на свеце значна больш.

— Праз усё жыццё я цяжка працавала над сабой: скокі ў ваду, фехтаванне, аэробіка, танцы да ўпаду. Апрача таго — іголкатэрапія, саўна, вібрамасаж і ўсё гэткае. Бо канкурэнцыя расце з дня на дзень. Цяпер ужо распранаюцца ўсе. Нават і тыя, каму гэта супрацьпаказана. А мне трэба яшчэ пратрымацца некалькі гадоў. Дачка расце. Без бацькі...

(Адзінокія жанчыны чымсьці адрозніваюцца ад замужніх. Мо мімавольнай канцэнтрацыяй жаночай і мужчынскай энергіі, дзе апошняя амаль пераважвае. Бо на каго можна разлічваць?..)

— Бачыце, дзе працую? Хто цяпер у рэстаранах сядзіць, сам ведаеш. Ды і занятак мой... Людзі майго жанру асуджаныя на адзіноту.

Маладзенькія дзяўчаты, што выстаўляюць грудзі напаказ, праз год-другі або кідаюць гэтую работу, або ідуць на панель. Спакусаў шмат. Заўсёды знойдзецца такі, што прапануе сотні тысяч за ноч. А што тычыцца вечарынак за сталамі, дык даводзіцца адбівацца. Адносіны, як да... Бывае, у танцы падыходзіш да стала, а цябе матам абкладаюць, асабліва "цялушкі", што прыйшлі з законнымі кавалерамі. Часам даходзіць да сутычак. Таму і абгаворваем загадзя справы бяспекі з адміністрацыяй.

(Яна крыху напорыстая, гучнагалосая. Адчуваецца моцны характар. Такая пастаіць за сябе.)

— Акрамя грошай, нічога не набыла. Ды яшчэ стала нібы спустошанай душой. Яны ж сядзяць, п'юць, ядуць, выкрыкваюць гэткае!.. Уласна кажучы, як інакш ставіцца да жанчыны, якая распранаецца за "бабкі"? І мне ўжо пачынае падабацца, як гэтыя "крутыя" сціхаюць, калі прашу іх пры ўсіх расшпіліць мне станік ці кнопкі на трусах. А потым гэтае "ўбранне" надзяю ім жа на галовы — вось вам — за вашыя грошы, за вашую пажаднасць!.. Рагочуць, торкаюць пальцамі. Агідна...

(Я таксама мімаволі панік ад уражваючай прамалінейнасці яе слоў.)

— Хіба ж я змянілася? Цяпер дастаецца і маім сябрам, маю на ўвазе тых, з кім перыядычна сплю. Для іх я — шок. У ложку лідэр — я. Разняволеная да апошняга. Так што, відаць, страчана больш, чым набыта. Знікла жаночая сарамлівасць. Шалёна змагаюся, каб не стаць цынічнай.

(Крыху паспешна хаваю падораныя Зояй фотакарткі, дзе яна "інтымна распранутая". Краем вока бачу яе хітраватую ўсмешку: яшчэ адзін гатовы... У руках яна трымае каляровае фота. "Прыстойнае". Прыгожая маладая дзяўчына. Яна?..)

— Гэта мая дачка. Жана Падрэзава. Не чуў? Яна майстар спорту па фігурным катанні. Алена Чайкоўская яе трэнер. Жане — шаснаццаць. Яна зараз у Лацінскай Амерыцы ў стажорскай групе лёдавага шоў.

(Цікава, як бы адрэагавала дачка, даведаўшыся, што маці —"зорка стрыптызу"? Цікава, што сказала маці, аднойчы пачуўшы, што дачка хоча зарабляць на жыццё эратычнымі танцамі? Дзве жанчыны. Два светы. Дзве долі...)

— Я б не параіла Жане. Я б нікому не параіла. Бо гэта ад безвыходнасці. Але калі б яна пачала настойваць, сказала б: "Што ж, Жана, паспрабуй..."

**Алесь ІЧОС**

## ПРЫГОДЫ СТАТЫСТА

*(Заканчэнне. Пачатак у №30)*

Вось яшчэ адна гісторыя з ліку тых, дзе кіно спалучае ігру і рэальнасць.

У чэрвені 93-га года ў Траецкім прадмесці здымалі сцэну аўтадафэ з фільма "Аз вздам". Да крыжа прывязалі манекен, абклалі дровамі, аблілі саляркай і падпалілі. Усю прастору двара запоўнілі сярэднявечныя манахі ў чорных расах і капюшонах, з крыжамі на грудзях і паходнямі ў руках. Побач стаялі месцічы, студэнты ў берэтах ды іншыя разявакі, што прыйшлі зірнуць, як святая інквізіцыя ачышчае места ад ерасі і вядзьмарства.

Здымаць пачалі, калі сцямнела, дзесьці аб 11-й ночы. Нам, манахам, загадалі размахваць паходнямі і крычаць: "Смерць сатане!" Здымкі пайшлі ваўсю. Наш лямант скаланаў Траецкае прадмесце. Некалькі рэпетыцый, а потым дублі ўвялі нас у экзальтацыю. Масоўка гарлапаніла з натхненнем.

— Што ж гэта мы робім? — перашэпталіся статысты. -- Людзям жа заўтра на працу ісці!

— Усё нармалёва, мужыкі, — супакоіў нас тэхнік. -- Ім плацяць за гэта.

— Тады паддамо яшчэ!

Масоўка пачала імправізаваць. Чуліся няўцямныя крыкі і заклікі палітычнага характару. Я разам з групай інквізітараў стаяў на заднім плане, пад вокнамі рэстарана. Былі бачныя галовы людзей, якія сядзелі ля вакна. Прапіты голас спяваў там: "За мяжу, за мяжу ад'язджае мой сябар..."

— Для іх гэта актуальна... — са злосцю сказаў адзін з "манахаў". — Толькі і катаюцца туды-сюды... Там скрадуць, тут загоняць. Прапіваюць краіну!

— Туды і не завітаеш, — падтрымаў яго іншы. — Інтэлігенцыю даўно адсюль выжылі. Адна шпана... Мафія і прастытуткі п'янствуюць...

Пачалі новы дубль, і хлопец у чорным закрычаў, трасучы паходняй:

— Ператварылі старажытны Менск у маліну! У прытон, гадзючнік!

— Выкурым нячыстых адсюль! — зараўлі мы дружна. — Смерць сатане!

— Даўно пара спаліць гэтых кашпіроўскіх, ведзьмакоў, глобаў, сектантаў, што палохаюць людзей блізкім канцом свету! —працягваў хлопец і падсумаваў: — Смерць мафіі!

— Смерць сатане! — падтрымаў яго шматгалосы хор.

Галовы ў вакне зніклі. Спяванне абарвалася.

У гэтых расах, з паходнямі ў руках мы адчувалі сябе бясстрашна і натхнёна. На пачатку трэцяй гадзіны ночы здымкі скончыліся.

— А шкада, што інквізіцыі ўжо няма ў Беларусі, — уздыхалі мы, калі сядалі ў аўтобус, каб ехаць на студыю.

— Мы б ім паказалі Варфаламееўскую ноч!

**Сяргей НОСАЎ**



Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

## ДАДАТКОВЫЯ ВОЧЫ ЖАНЧЫНЫ

У Нацыянальным мастацкім музеі РБ працягваецца выстава амерыканскай фотамастачкі ДаяныНоймаер. Экспазіцыя складаецца з некалькіх дзесяткаў каляровых фотарэпрадукцый карцін славутых майстроў жывапісу — Гоі, Гагена, Шагала ды іншых —якія адлюстроўваюць фізічную (у класікаў) ці геаметрычную (у мадэрністаў) прыгажосць жанчыны.

У прадмове да выставы Даяна Ноймаер, прафесар фатаграфіі Роджэрскага універсітэта (ЗША), зазначыла: "У гэтым праекце, які я фатаграфавала ў нью-ёркскім Метраполітэн-музеі, я звярнула ўвагу на ролю жаночага цела ў гісторыі заходняга мастацтва. Прыкладна 85 працэнтаў выяваў аголенай натуры ў калекцыі музея — гэта жанчыны, а сярод мастакоў іх толькі 5 працэнтаў. Гэты праект кідае жартаўлівы выклік апанаванасці мужчынскага ўяўлення жаночым целам".

Цікава, што ў выявах жанчын адсутнічаюць твары, але гэта не ўпадабняе мадэлек адну адной, а, наадварот, падкрэслівае індывідуальнасць жаночага бюста. Ледзь не кожны здымак "страляе" ў гледача дуплетам аголеных грудзей, якія кормяць немаўля, дыхаюць водарам кветак або проста глядзяць у прастору. Даяна Ноймаер звяртае нашу ўвагу на тое, што жаночае цела мае дадатковыя жывыя вочы, часам напаўпрыкрытыя "вейкамі" карункаў. Магчыма, яны і дазваляюць нашым каханым так многае бачыць інтуітыўна, бачыць сэрцам.

Агляд экспазіцыі паволі падводзіць наведніка да высновы, што заўсёдная цікавасць мастакоў да жаночай натуры тлумачыцца, у першую чаргу, яе большай выразнасцю і непаўторнасцю — у параўнанні з мужчынскім целам, не вартым, напэўна, нічога без галавы і якой-кольвек прылады ў руках для вайны або працы.

**Ю.Б.**